НАША НІВА

*Беларуская газэта*

*Вільня №15. 1993*

**УНІВЭРСАЛІЗМ** Гісторыкі Генадзь Сагановіч і Алег Дзярновіч разьвітваюцца з ранейшай беларускай гісторыяграфіяй, але пакуль не знаходзяць сустрэчы з новай.

**ЛЯВОН ТАРАСЭВІЧ** Людзі не разумеюць розьніцы паміж культуровасьцю пэўнай грамады й мастацтвам. Кожная дзяржава імкнецца стварыць так званае нацыянальнае мастацтва, а на справе стварае толькі палітычную прапаганду. Нашто гэтыя стылізацыі — «беларускае мастацтва»? Даволі, што будзе мастацтва на гэтых землях, яно само па сабе будзе беларускае.

**ДАНТЭ АЛІГ'ЕРЫ** «Боская камэдыя». Песьня першая. Упершыню на беларускай мове. А таксама — Пралёг Хорхэ Луіса Борхэса да кнігі «Дзевяць дантаўскіх эсэ».

# ПРАДУКТЫ НЯСЬПЕЛАГА ЧАСУ

Ігар Бабкоў

.......

*Вера паэтаў, птушкай сьляпою сядае на рукі*
*Ведае, вочы заплюшчу й буду*
*мроіць аб дрэве самотным, маўклівым*
*Ведае, буду сыходзіць пакутна*
*ў пекла, дзе лютыя зьверы сэрца ўначы раздзіраюць*
*Ведае, словы складуцца й поўня*
*залямантуе, заплача: ўспаміны пра неба*
*Вучыць, самотныя зоркі мусяць гарэць безразважна*
*й падаць бясконца*
*Вера паэтаў, каханьне*

.....



## КРАІНА-ВОСЕНЬ

Гэта шэрасьць. Шэрае
золата, шэры пунс,
шэры смарагд.
Зіма — не зіма,
і лета — ня лета,
а так — подых восені.

Чорна-белыя дні.
Стома. Мы прайшлі
ўсе вышыні.
Залаты век.
Мышасты колер
пустаты.
І белы «іней» —
шэрань.
І вечар — шарая гадзіна.
Шэра-жоўтае лісьце.
Шэра-блакітнае неба
і вочы.
Шэра-чырвоная паска
на шэра-белым сьцягу.

Шэра — у неабжытым
доме. Шэра і сыра.
Краіна канфармістаў
і канфармізму.
Прырода...
Восень палітыкі.
Восень культуры.
Восень мовы.

Марна ўзмацняць
колеры.
Нават флюарэсцэнтныя
восеньню — шэрыя.

Шэры восеньскі холад.
Беларусь — не Алжыр,
дзе асьляпляльнае
сонечнае сьвятло
стала прычынаю
забойства араба.
У нас
«кліматычнай
прычынай»
такога забойства
мог бы стаць
пранізьлівы
восеньскі холад,
які зацямняе розум.



[...]

Ад Рэдакцыі

# Дзёньнік прыватнага чалавека

## ПРАДУКТЫ НЯСЬПЕЛАГА ЧАСУ

**Час і забыўлівасьць вызваляюць цябе ад ідэальнага досьведу. Ты намагаесься гэты досьвед набыць, а час вызваляе. Прычым робіць гэта без твае волі й згоды, крадком. Як злодзей, які ў запоўненым аўтобусе «вызваляе» пасажыра ад грошай...**

Ноччу, запаліўшы на кухні сьвятло, я пазіраю на кавалак недаедзенага халадца на стале й думаю пра тое, ці ня елі яго ўжо мышы...

Я жыву зусім ня тым жыцьцём, якое сабе ўяўляю, пра якое мару. Тое жыцьцё ўзьнікае з гэтага. У тым жыцьці я пішу свае творы. Тут я іх толькі запісваю. Але ў той час, калі там яны складаюцца, тут мне можа быць лянота, ці не адпавядаюць умовы, ці тут — «у сапраўдным жыцьці» — сам занятак запісваць выглядае марным, неабавязковым, яго можна пазьбегчы. А там — складаньне твораў — мая ініцыятыва, мой покліч. Словам, я-генэратар і я-выканаўца...

Час «унівэрсальных вытлумачэньняў» і схемаў...

Няспраўджаныя ідэі муляюць, задумы муляюць, чарнавікі муляюць. І нехта выдае, як ёсьць, а нехта — як-небудзь у фрагмэнтах. Час негатовай прадукцыі. Гэта як з дрэнна захаванаю бульбай. Адзін прадае яе ў краме як проста бульбу, другі прадае на корм сьвінству, трэці адчыніў «Кулінарыю» — абразае гнільлё й варыць нешта, парыць, смажыць. Дрэнна захаваная бульба — гэта й ёсьць наш час. А першы, другі, трэці — можа быць, літаратары. А прадукт — літаратура...

**Гэты нумар «НН» задумляўся як нумар нязьдзейсьненых мараў — вось так разам узяць і зьдзейсьніць, а не атрымаецца — дык хоць расказаць, чаго хацеў. Усё адно гэта ідэі, адкладзеныя на неакрэсьленае пасьля, як бы на другое жыцьцё. Ідэі негатовага часу. Але што б з гэтага ўсяго атрымалася? Сымбаль, мэтафара, максымум таго, што мы можам. І ўсё? Максымум таго, што можа той, хто ня можа. Машыны езьдзяць на дрэннай газе, даляры ў кішэні, магчыма, фальшывыя, інфармацыя ў газэце можа не адпавядаць сапраўднасьці, дзяржава нічога нікому не гарантуе...**

Дурацкая сытуацыя. Літаратура скача ад разваленай печкі. Лішні раз пераконваесься, што сапраўдныя творы нараджаюцца толькі ў стабільным часе. А самы стабільны час, квазістабільны — таталітарызм. Час формы. Час жанру. Час сьветапогляду. А сёньня — час зьместу, час, як бы гэта сказаць, міжжанрра, час сьвету. І, насуперак савецкаму тосту, нашыя жаданьні спрэс не супадаюць з нашымі магчымасьцямі. І ад гэтага нікнуць і прападаюць жаданьні. Няма жаданьняў. Вы заўважылі, што ўжо гады два, як перасталі пісаць паэты? Пасьля празаікі. А самая першая, нібы ад аднаго толькі прадчуваньня, заціхла крытыка...

Літаратура ўсяго толькі перапампоўвае свой час. І калі гэты час незавершаны, неакрэслены, нясьпелы — які б ні быў дасканалы майстар-літаратар, з благое сыравіны ён ня вырабіць прыдатнага прадукту.

**Можа, з крытыкі ўсё й пачнецца нанова? Калі яна прадчуе новую паэзію й прозу, якія прадчуюць новую стабільнасьць? Мяркуючы па бульбе... Апошнім часам на нашым рынку зьявілася й добрая бульба. Вядома, яна значна даражэйшая за звычайную. Але хіба гэта не сымптомы новага часу? Новых жаданьняў? Дзясяткі паэтаў і празаікаў дрэмлюць у чаканьні новых жаданьняў, прыводзячы ў парадак свае пёры. Яны ўжо нагандляваліся медзьдзю. І цяпер, калі дзіўная сіла пакліча іх да стала... у іх ужо ёсьць гэты стол...**

**А нязьдзейсьненым задумам найбольш адпаведны будзе нязьдзейсьнены нумар «НН»...**



## НОВЫЯ РЭАЛІІ ТОЛЬКІ ПАДКРЭСЬЛІВАЮЦЬ ТОЕ, ШТО ЎСЁ ЗАСТАЕЦЦА ПА-СТАРОМУ

**Паміж Беларусяй і Літвой, на працягу 700 км усталяваная сапраўдная міждзяржаўная мяжа — з мытнямі, КПП і візавым рэжымам. Новая геапалітычная рэалія ўзьнікла там, дзе яе не было ніколі ў вядомай нам тысячагадовай гісторыі. Падзея, як быццам, настолькі вызначальная, што міжволі шукаеш доказаў, ці сапраўды гэта новая рэалія? Мусіць, ня ўсё так адназначна, як гэта можа выглядаць у газэтнай інфармацыі.**

Па-першае, гэта мяжа ня столькі паміж Беларусяй і Літвой, колькі паміж СНГ і Балтыяй. Ініцыяваная яна Міжнародным Валютным Фондам, які прапанаваў тром балтыйскім краінам падпісаць дамову аб вольным гандлі, і Расеяй, якая імкнецца акрэсьліць сваю геапалітычную прастору. Уласна Беларусі і ўласна Літве гэтая мяжа не патрэбная, ня кажучы ўжо пра народы абедзьвюх краін. Міжнародныя арганізацыі імкнуцца разглядаць тры краіны Балтыі (дарэчы, паміж сабой зусім не прыцягальныя) як адзінае цэлае з празрыстымі межамі, а Расея патрабуе, каб беларускае кіраўніцтва вызначылася — зь ёю яно ці само па сабе. (Аддалена гэта нагадвае сытуацыю пасьля «перестройки» 17-га году.) Для Літвы новая мяжа будзе азначаць адкрыцьцё даволі жорсткае сёньня мяжы з Латвіяй, а для Беларусі — ліквідацыю ўсіх перашкодаў на мяжы з Расеяй.

Па-другое, калі колісь паміж ковенскай Літвой і СССР была Польшча, дык цяпер гэтая Польшча тут скукожылася да камяка нацыянальнае меншасьці з кволымі галасамі пра аўтаномію. Сутнасьць жа мяжы засталася тая самая. Тая ж палітыка Літвы — апераджальны манэўр з апэляцыямі ва ўсе міжнародныя арбітражы, тая ж монаэтнічная ідэалёгія, той жа пераважна аграрна-каталіцкі быт. Беларусь і сёньня больш падобная да БССР ці Северо-Западного Края, дзе ўвесь нацыянальны поступ адбываецца ўсё яшчэ ў плоскасьці мэтафізікі й ніяк ня вырвецца ў рэальнасьць. Такім чынам, нічога сутнасна новага ў параўнаньні з 1918 годам гэтая мяжа ў сытуацыю не прыўносіць. І каб знайсьці гэтае новае, трэба вярнуцца яшчэ раней, куды-небудзь у XIX ст... Зрэшты, Літва — Жамойць і Аўкштота — былі этнічна акрэсьленыя яшчэ ў ВКЛ (нездарма беларускія гісторыкі так настойліва іх адтуль выдзяляюць), яшчэ за Вітаўтам. Беларусы ж як этнас увесь час ляпіліся, кампіляваліся, дасьпявалі, так і застаўшыся самою невыразнасьцю (І.Абдзіраловіч). Магчыма, гэта й забясьпечыла этнічную спалучальнасьць двух народаў у ВКЛ на працягу 500 гадоў. Мы былі паветра й камень, а ня два камяні ці два паветры.

**Яшчэ паўгода таму выглядала на тое, што й беларусы ператворацца ў камень — прагназаваліся нават іскры сутыкненьняў. Але да гэтага, да каменя, не дайшло. Такім чынам міждзяржаўная беларуска-літоўская мяжа хоць фармальна й ёсьць новай рэаліяй, па сутнасьці толькі пацьвярджае йснуючае ў гэтым рэгіёне на працягу тысячагодзьдзя status quo.**

## СКАРЫНА ЯК НАЦМЕН

**На беларуска-літоўскіх перамовах зь ініцыятывы літоўцаў у якасьці вядучага прыняты прынцып парытэтнасьці: школа для беларусаў у Вільні — школа для літоўцаў у Рымдзюнах, 10 хвілін па-беларуску на Літоўскай TV — столькі ж па-літоўску на БТ, дом культуры там — дом культуры тут... Адбываецца «дыпляматычны» гандаль. Колькасныя суадносіны (беларусаў у Літве як мінімум у 10 разоў болей, чым літоўцаў у Беларусі) пад увагу не бяруцца. Але й не яны тут выклікаюць пярэчаньне. Заганны сам прынцып парытэтнасьці. Дакладней, ён да заганнасьці прымітыўны. Бо замест культурных і навуковых інтарэсаў абедзьвюх дзяржаваў разглядаюцца інтарэсы нацыянальных меншасьцяў.**

Віленская беларушчына ня йдзе ў параўнаньне зь некалькімі тысячамі літоўцаў у Беларусі не паводле колькасьці, а паводле самога характару. Калі ў выпадку літоўцаў зусім адпаведна гаварыць пра інтарэсы нацыянальнае меншасьці, дык у выпадку беларушчыны гутарка павінна весьціся і пра інтарэсы нацыянальнае меншасьці, але найперш — пра інтарэсы беларускага нацыянальнага адраджэньня, пра інтарэсы культуры. Інакш «беларуская меншасьць» на Віленшчыне мусіла б складацца на добрую долю з прафэсійных гісторыкаў, архівістаў, мастацтвазнаўцаў, музэйшчыкаў і г.д. Разглядаць жа беларускі фактар на Віленшчыне вузка парытэтна — як фактар меншасьці, — значыць, зьмяншаць момант культуры на карысьць палітыкі. Што ў такім выпадку адбываецца, мы бачым на прыкладзе палякаў. З магутнага традыцыйна-культурнага фактару — эліты польскае культуры — яны ператварыліся ў палітызаваную меншасьць. Высокая культурная традыцыя страчаная, бо ня можа існаваць у папулісцкіх асяродках, натуральная мэта якіх — аўтаномія, а натуральная мара — Польшча. Натуральная, бо нішто не прымусіць паспалітага паляка «не хацець», каб Вільня належала да Польшчы і быць нацменам.

Можна прадбачыць, што з часам у Вільні ўзьнікнуць сапраўдныя беларускія грамадзка-палітычныя аб'яднаньні, якія будуць змагацца за «музэй, архівы, архітэктуру й г.д.» — за тое, што ім, па вялікім рахунку, ня трэба. Але зьнікне надзея на тое, што гэтыя аб'екты стануць аб'ектамі высокай культуры, а не заваёвай нацыянальнае меншасьці, што цікавая й патрэбная толькі ёй.

Прычына названых паводзінаў абодвух бакоў ясная. Калі прызнаць, што колькасныя паказчыкі ў культурным аспэкце сапраўды нічога не гавораць, мы зразумеем, што беларушчына у самой РБ сёньня — інтарэс нацыянальнае меншасьці. Той жа дыдактычны аматарскі падыход да культуры, тая ж палітызацыя... Штосьці падобнае адбываецца і ў Літве, бо тут ангажаваныя ў палітыку культура й навука камплексуюць на невялікіх памерах нацыі сярод монстраў-імпэрыялістаў.

Віленская «дыпляматычная» калізія толькі вынікае з агульнае сытуацыі ў абедзьвюх краінах.

Галоўны чыньнік існаваньня нацыянальнае меншасьці — страх, боязь чаго-небудзь недабраць ці згубіць. Галоўны аб'яднаўчы фактар — пашпартная нацыянальнасьць. Галоўны аргумант — апэляцыя да дзяржаўных амбіцый свае мэтраполіі, імкненьне выклікаць да сябе шкадобу. Але якое ўсё гэта мае дачыненьне, скажам, да працягу віленскіх традыцый Скарыны ці Багушэвіча, да колішняга беларускага музэю, да таго, што сёньня стала «традыцыямі дыяспары», гутарка пра якія вядзецца ў пераліках паміж іншых сабесаўскіх скаргаў пра візавы рэжым і тарыфы на тэлефонныя перамовы?

Разглядаць Вільню як супольную сталіцу даўніх часоў — значыць, пазьбягаць палітызацыі пытаньня, якое цалкам належыць да сфэры духоўнасьці, культуры, навукі. Гэты момант беларускі бок ня ўлічвае. Хоць Вільня яшчэ й сёньня можа прадукаваць культурныя вартасьці дзеля Беларусі.

Парытэт магчымы ня толькі ў справе нацменаў. Асобны парытэт — але не гандлярскі — магчымы ў галіне нацыянальных культураў. Бо Літва безумоўна мае культурныя інтарэсы на Беларусі. Прычым Рымдзюны з Гервятамі ня йдуць ні ў якое параўнаньне з Наваградкам, Лідай, Нясьвіжам... Гэта не палітызаваныя інтарэсы, што значыць, на вяршыні іх няма «вяртанскіх» настрояў. Яны разьвіваюцца ў іншай сфэры — у сфэры духа. Але Беларусь і Літва яшчэ не гавораць пра гэта. Яны пакуль выгандлёўваюць штосьці для сваіх «адзінакроўных братоў». Прычым нашмат лепш гэта атрымліваецца ў Літвы. Беларускія афіцыйныя чыноўнікі пакуль разважаюць у пячорных савецкіх катэгорыях «патэнцыяльных ворагаў» «літоўскіх заложнікаў на Беларусі» і «за намі расейскія танкі».

**Нацыянальная меншасьць — гэта заўсёды анамалія, інваліды, непаўнавартасныя. У нацыянальнай краіне гэта тройчы так. Сёньня ў гэтых шыхтох — Скарына, Каліноўскі, Багушэвіч, браты Луцкевічы, «Наша Ніва». Прычым аднолькава і ў Вільні, і ў Менску.**

# МАЛЫ ВІЛЕНСКІ АПАКАЛІПСІС

Роланд Растоўскі (Rolandas Rastauskas)

1. То ня попел Кляса грукае ў сэрца, а сьмецьце заняпалае Вільні. Ружа са сьметніку стаецца гербам гэтага места. Крыстафор, узьняўшы на плечы сына, брыдзе праз звалкі, шукаючы лапіку экалягічна чыстае й бясьпечнае зямлі. Сьметнікі самі загараюцца й самі згасаюць. Галівудзкія эмісары неўзабаве змогуць тут незадорага аднавіць натуру Бронксу й Гарлему. Звалка, сапраўдная Біблія канцэптуалістаў і авангардыстаў усякае масьці, вырастае й распадаецца побач з статуяй Барбары Радзівілянкі, запраста пераўзыходзячы памазанцаў Цэнтру Сучаснага Мастацтва. Звалка — гэта энцыкляпэдыя Гнілі й магістар Пахаў. Яна ўзьнікае на месцы першага высыпанага вядра з адкідамі, захоўваючы ананімнасьць аўтара, і аднак сьцьвярджаючы ягоную эстэтыку. То ня попел Кляса грукае ў сэрца, а віленскія руіны. Вачніцы занядбаных дамоў стаюцца эмблемамі гэтага места. Крыштап з малалетнім сынком на плячох брыдзе праз хлуд, шукаючы ўчарашняга зялёнага сквэру з фантанам. Досыць! Збудзецеся ад задушнага сну, былы віляпчук RoRa! Найлепей будзяць прыснулага выбух гранаты й аўтаматныя чэргі.

2. Пакуль высакалобыя з набожнымі тварамі разводзілі філязофію пра славу й дух Вільні, гэтае места бурылася й распадалася ўвачу. Як наўмысна — чым больш узьнёсла й містычна пра яго гаварылася, тым цяжэй было ўзьняць яго з руінаў, г.зн. адрэстаўраваць. Ня дух — будынкі. Заліты падонкамі Стары Горад. Забытае Богам Зарэчча. Гісторыкі змагаліся з архітэктарамі. Архітэктары змагаліся міжсобку. Урбаністы змагаліся з савецкаю ўладай. Каляністы хлябталі гарэлку. А сэрца места ледзь білася. Новая ін'екцыя бяздумцаў спараджала яшчэ аднаго монстра. Пасьля ўзьнёслай алімпійскай эстонскай архітэктуры, адкрытай акіяну, небу й зоркам у апошнім, пасьля віртуозна аздобленага талінскага старога места, вярнуўшыся дадому ты бачыў дзе-небудзь на скрыжаваньні Крэтынгскай і Лідзкай вуліцаў шэдэўр архітэктуры ў стылі каратэ. Лаячыся, ты дзівіўся, чаму ніхто ня зьдзьме пыл з разгортак вуліцаў віленскага старога места, накрэсьленых Язэпам Камароўскім (Juozas Kamarauskas, 1874-1946). То што ж яшчэ заставалася? Апалёгія таямнічых руінаў. Мэтафара места як рамантычнае дэкарацыі. Перапіска Венцлавы зь Мілашам. Пад тымі дэкарацыямі сноўдалі постаці, што ў часы сьвятаў не адмаўляліся пабыць людзьмі. Праўда, чуліся й больш гнеўныя галасы. Асабліва цяжкія тыя гронкі гневу ў «Віленскім покеры» Р.Гавяля (R.Gavelis), дзе нашая эфэмэрыда паўстае як мэтраполія канукаў, а Жалезны Воўк ператвараецца ў зачуханага сабаку. Урбаністычныя праблемы тут ужо нікога не хвалююць — гнаяцца ня сьцены, а душы й целы віленчукоў. Тэкст места цалкам зьнявечаны. У месьце казак і каралёў пануе «кароткі, тупы й нямоглы віленскі фалас». Суцешыцца можна хоць бы тым, што гэта IX праца. Аднак узьнікае непазьбежнае падазрэньне, што мы з вамі й ёсьць тыя ЯНЫ.

3. Гэта мы, поўныя найлепшых намераў, зруйнавалі сваю сталіцу. Батракі высланых кулакоў стварылі калгасы на вёсцы й жалезабэтонныя юрты ў горадзе. Новыя віленчукі, атрымаўшы ў спадчыну яшчэ жывую дэкарацыю, так і не зразумелі горад як тэкст, бо сын вёскі ня мае яго ў сваіх генах. Вільню зруйнавала ня толькі савецкая ўлада, але й сялянская мэнтальнасьць. Гаспадар палёў і працярэбнічык прасекаў сумаваў па прасторы й песьні жаўрука. А тут, у гушчары пасэсіяў, ён адчуваў сябе, як птушка ў клетцы. «Іду праз горад, як праз лес», — пісаў адзін усімі забыты літоўскі паэт. Лепш і ня скажаш. Праўда, Мікалай I хацеў назваць Вільню *Чёртовгород*, паверыўшы, што этымалягічна назоў сталіцы паходзіць ад velnias — чорт. Таму ён пасьля паўстаньня дзекабрыстаў загадаў гарадзкія пляцы перарабіць на сквэры, каб было немагчыма зьбіраць маніфэстацыі. Прыклады з розных эпохаў сьведчаць пра тое, што найлепей засьведчыць Чэслаў Мілаш: «Не, не зразумеў ніхто. Нікому не было наканавана». Як цару, гэтак і сыну савецкае вёскі. Неразуменьне гораду як тэксту разбурала й разбурае віленскія муры. Памеры гэтага неразуменьня робяць марнай любую рэстаўрацыю. Можна адбудаваць адзін будынак, але не ўдасца ўзнавіць цэлы квартал. Гэтае места могуць уваскрасіць зь мёртвых толькі багатыя людзі з урбаністычнай мэнтальнасьцю. Ці ўжо высьпела гэткае пакаленьне мяшчанаў? Ці захоча яно ўкласьці ў гэта грошы? Ці будзе яно мець дастаткова кемнасьці й развагі? А можа Вільні наканавана застацца экзатычнымі джунглямі, якія прывабяць адно заходніх снобаў, стомленых ад стэрыльнага парадку свайго жыцьця?

4. «Едучы сюды, я спадзяваўся пабачыць эўрапейскую краіну, — пісаў пару гадоў таму славуты піцерскі бітл Барыс Грэбеншчыкоў. — А выйшаўшы на вуліцу, я пабачыў страшны сацыялістычны рэалізм. Амаль ніякае розьніцы паміж Вільняй, Варонежам і Самарай. Я думаў, што ў людзях знайду болей сэнсу, што яны ўжо пачалі працаваць: рамантаваць дамы, адчыняць свае крамкі, наводзіць парадак. Талін пакінуў у мяне большае ўражаньне эўрапейскага гораду. А будучы ў Літве, здаецца, што ты ў Савецкім Саюзе». Вось жа праляцелі ўжо добрыя два гады. Што мы адчуем сёньня, прайшоўшыся, прыкладам, ад чыгуначнага вакзалу да цэнтру? Калі й можна гаварыць пра рэвалюцыйныя перамены ў сьвядомасьці новаўзрослых гандляроў, дык гэтую рэвалюцыю ажыцьцявілі Карл Марс і Фрыдрых Снікерс. А рэлігія, якую вызнае маладое пакаленьне (атожылкі тых самых гандляроў), завецца навуковы баўнтызм. Гэтае стагодзьдзе, здаецца, пабачыць толькі адзін літоўскі горад. Перад вайною ён называўся Часовай сталіцай.



Zenonas Bulgakovas 95

«Lietuvos rytas»
Пераклаў зь літоўскай U2

# ІНФАРМАЦЫЯ

## У Вільні адчынілася беларуская школа

1 верасьня аднавіла сваю працу Віленская Беларуская Гімназія. Такая гімназія існавала тут у 1919—1944 гг. Праўда, сёньняшняя школа яшчэ не называецца гімназіяй і ня мае свайго памешканьня. Часова заняткі праходзяць у памешканьні расейскай СШ № 17. У беларускую школу прыйшлі крыху больш за 100 вучняў, але мяркуецца, што колькасьць іх будзе павялічвацца.

## Візыт рымскага папы

«Кожны народ, кожны край мае свае сьвятыя мясьціны, асабліва дарагія для сэрцаў вернікаў», — сказаў папа Ян Павал II у часе адной са сваіх 60 паездак па сьвеце. Менавіта па такіх мясьцінах прайшоў ягоны маршрут і ў Літве, куды сьвяты айцец прыбыў 4 верасьня. Ужо ў гэты дзень ён сустрэўся зь вернікамі й сьвятарамі, адслужыў імшу ў віленскім архікатэдральным саборы — самым старажытным хрысьціянскім храме на тэрыторыі Літоўскай Рэспублікі. Пасьля суботнюю малітву ён прачытаў у капліцы Вострае Брамы. Гэта другая віленская сьвятыня, вядомая ва ўсім хрысьціянскім сьвеце. У Ватыкане ўстаноўленая копія Вострай Брамы. Ян Павал II гаварыў перад абразом Маці Божае Вастрабрамскае й на беларускай мове. На другі дзень ён правёў экумэнічную сустрэчу ў рэзыдэнцыі нунцыя, наведаў Антакальскія могілкі, дзе пахаваныя заслужаныя людзі Літоўскай Рэспублікі. Самая масавая й працяглая сустрэча папы рымскага зь вернікамі й паломнікамі адбылася ў віленскім парку Вінгіс (Закрэт). Тут прагучала ягоная казань на літоўскай, польскай, беларускай, украінскай і расейскай мовах, адбыліся абрады хросту й шлюбу. Увечары ў касьцёле сьв. Яна папа рымскі сустрэўся зь дзеячамі навукі й культуры, а ў касьцёле сьв. Духа — з тутэйшымі палякамі, якіх ён назваў літоўцамі польскага паходжаньня. На трэці дзень сьвяты айцец адбыў у Коўна.

## Таварыства палітвязьняў

У Вільні зарэгістраваны статут Згуртаваньня былых палітвязьняў беларусаў. Ініцыятыўную групу новай арганізацыі складаюць дзевяць чалавек — усе яны ў свой час пацярпелі ад сталінскага рэжыму за свой беларускі нацыяналізм. Старшыня ініцыятыўнае групы сп. Аляксей Анішчык кажа, што палітзьняволеныя — найменш забясьпечаная група насельніцтва ў параўнаньні са звычайнымі пэнсіянэрамі. Мэты новай арганізацыі — збліжэньне народаў і краін Літвы й Беларусі, абарона інтарэсаў былых палітвязьняў. Нумар тэлефону новае арганізацыі ў Вільні: 758606.

## Розныя адносіны да Арміі Краёвай

Пакуль вэтэраны АК, што дзейнічала ў часы нямецкай акупацыі на Віленшчыне, аднаўляюць магілы палеглых воінаў і адзначаюць памятныя даты, урад Літвы выдае распараджэньне стварыць камісію, якая павінна даць ацэнку дзейнасьці АК на тэрыторыі Літвы. Год назад Міністэрства юстыцыі адмовіла ў рэгістрацыі клюбу вэтэранаў АК, і цяпер камісія павінна ацаніць справядлівасьць гэтага рашэньня. Як адзначаюць прадстаўнікі камісіі, дзейнасьць АК падпарадкоўвалася польскаму эміграцкаму ўраду, была скіраваная на аднаўленьне даваенных межаў Польшчы і насіла ня толькі антыфашыстоўскі ды антысавецкі, але й антылітоўскі характар.

## Літоўскія архівы будуць патрабаваць сваё

Дырэкцыя архіваў Літвы на чале з дырэктарам Гедымінам Ілгуном (Gediminas Ilgunas) падрыхтавала праект пагадненьня для перамоваў з Расеяй. У гэтым праекце Літва просіць Расею вярнуць ёй усе вывезеныя зь яе тэрыторыі ў розныя часы дакумэнты. Маўляў, архіўныя дакумэнты павінны захоўвацца на той тэрыторыі, дзе яны створаныя. У праекце падкрэсьліваецца, што такім прынцыпам Літва будзе кіравацца і ў адносінах да Польшчы, Нямеччыны й Беларусі. Вяртаньне дакумэнтаў архівісты Літвы зьвязваюць найперш з працэсам вяртаньня маёмасьці й зямлі колішнім уладальнікам і іх спадкаемцам. На сёньняшні дзень у літоўскія архівы паступіла больш за 140 тысяч заяваў з просьбай адшукаць дакумэнты, якія пацьвярджаюць права ўласнасьці.

# НАВАЖЫЎСЯ, А НЕ ЗРАБІЎ...

Адам Глёбус



*Ахвярую Яну Адамчыку*

* * *

Быў намер стварыць дабрачынную арганізацыю «Белы крыж», якая мусіла дапамагаць старым людзям. Дзіўна, у нас ахоўваюцца старыя дрэвы, старыя будынкі, а старыя людзі не. Праект ня спраўдзіўся, бо дзяржава ўспрымае ўсялякую дабрачыннасьць як палітычную гульню, а займацца палітыкай, чамусьці, пасьля літаратурнага аб'яднаньня «Тутэйшыя» ня цягне. Адвярнула мяне ад палітыкі і, як высьветлілася, ад дабрачыннасьці.

* * *

Зьбіраўся зьездзіць у Ерусалім: паглядзець на пуп зямлі, пастаяць каля Божай дамавіны. Ня выбраўся. Як даведаўся, колькі трэба ўсялякіх дазволаў і паперак зь пячаткамі, дык жаданьне прапала.

* * *

У маладосьці наважыўся ўзарваць маўзалей Леніна, але своечасова зразумеў, што правадыр сусьветнага пралетарыяту даўным-даўно перастаў быць сымболем веры й любові, і што чачэнскія нацыяналісты больш спрактыкаваныя ў тэрарызме. Таму агрэсію я пакінуў сваім літаратурным героям.

Літаратура ратуе.

* * *

Вырашыў быў перабрацца зь Менску ў Вільню, толькі не пераехаў, бо пасьля пучу Расейская імпэрыя пачала развальвацца, і ўцёкі зь яе страцілі актуальнасьць, хай сабе й на пэўны час. Дый уцякаць, зьяжджаць, перабірацца я меркаваў наогул — у сьвет, як у капейку — а не менавіта ў нашую Вільню. Мусіць, таму пярэбары й не атрымаліся.

* * *

Калі зірнуць на біяграфію цалкам, дык найвялікшы няспраўджаны намер быў зьнітаваны з жаданьнем стаць мастаком-жывапісцам. Дзесяць гадоў я правучыўся ў мастацкіх установах і займеў досыць прыстойную адукацыю. А потым замест таго, каб ствараць карціны, пачаў рэстаўраваць сьценапіс і складаць вершыкі. Назва майго апошняга палатна гучала так: «за дзьве хвіліны, як чымсьці стаць». Некалькі разоў я зьбіраўся напісаць аповесьць, вядома, кароткую, каб адказаць на пытаньні: «Чаму ня пішаш палотнаў? Чаму не жывеш у Парыжы? Чаму літаратуру паставіў вышэй за астатнія заняткі?» Аповесьць напішацца, вядома, кароткая.

* * *

Мяне вельмі хвалюе лёс уласнага цела пасьля спыненьня зямнога жыцьця. Я ня з тых апантаных, хто ходзіць пад лёзунгам: «Ня дамся чарвяку!», бо нічога ня маю супраць магільных жукоў, чарвячкоў, бацылаў і мікробаў. Толькі больш гігіенічна й гуманна самому патурбавацца калі не пра ўратаваньне душы, дык хоць бы пра ўладкаваньне цела. А захваляваўся я за цела пасьля відовішча... У сонечны дзень над берагам мора, у скалах цалкам голы я глынаю атруту й падаю ў яміну, поўную пульхнай вапны, а зьверху мяне завальвае камянямі. Відовішча было яркае, каляровае — сіняе неба, белая вапна, жоўтыя скалы й камяні. І выглядала б усё амаль натуральна, каб не расслаеньне сьвядомасьці на тры іпастасі: тая — што гіне, тая — што назірае сьмерць і тая — якой бачыцца відовішча.

Я не зьбіраюся шукаць нейкую там яміну ў скалах, але й ня супраць, каб відовішча спраўдзілася.

* * *

На жаль, я не гатовы да наладжваньня вялікай вытворчасьці. Па-першае, дзяржава Рэспубліка Беларусь ня вызначылася, ці ёй будаваць капіталізм, ці пачакаць у вечна-пераходным пэрыядзе. Па-другое, не зашкодзіць самому набрацца мужнасьці, каб адчыніць які-небудзь цэх па вырабу трунаў, ці каб распачаць будоўлю прыватнага крэматорыя. Што да эксплёататарскіх здольнасьцяў, дык яны ў мяне ёсьць дакладна. Змог жа я наладзіць напісаньне кінараманаў паводле галівудзкіх фільмаў.

* * *

Мяркую пражыць восемдзесят два гады. Праўда, такі запіс варта было зьмяшчаць пад загалоўкам «Мяркую», а не «Наважыўся, а не зрабіў». Зрэшты, магчыма, пражывецца й восемдзесят тры гады, Бог яго ведае.

* * *

У дзяцінстве хацеў закапаць у лесе аўтобус, каб зрабіць у ім бібліятэку-зямлянку, патаемную, каб ніхто не перашкаджаў чытаць.

Наогул, у чалавека, прынамсі ў мяне, ёсьць толькі адно безадказнае пытаньне: «Як хавацца?»

* * *

Каштоўнае зь няспраўджанага засталося ў дзяцінстве.

*18 жніўня 1993 г.*



*Здымак Алены Адамчык*

# Кнігі, набытыя ў Маскве



**• История Европы. Т.2. Средневековая Европа. — Москва: Наука, 1992. — 808 с.**

Маскоўскія аўтары абралі адзін з магчымых шляхоў — напісалі гісторыю дзяржаваў, а не гісторыю народаў. Падзеі ХХ ст. у Эўропе паказалі пэўную абмежаванасьць такога падыходу. Узьніклі (і, магчыма, яшчэ ўзьнікнуць) такія дзяржавы, існаваньне якіх мог раней дапусьціць толькі запалены мозаг. А ўтваральным крытэрыем новых дзяржаваў робіцца народ як этнічная супольнасьць. Магчыма таму, распавядаючы пра Сярэднявечча як пра пэрыяд, калі быў закладзены грунт сацыяльна-культурнай агульнасьці Эўропы, аўтары сканцэнтраваліся пераважна на ідэі фармаваньня цывілізацыі праз хрысьціянства, слаба закрануўшы больш раньнія (у гэтым сэнсе падсьвядомыя) пласты эўрапейскай сьвядомасьці. Пройдзены доўгі шлях (808 старонак) па раманскай (рымскай) мяжы, Эўропа барбарскіх палёў засталася збоку. Ня тое, каб яе ўвогуле не закранулі, але няма адчуваньня, што Эўропу рабіла раса эўрапейцаў.

Кніжка стваралася тады, калі Міхаіл Гарбачоў ужо прамовіў словы аб «агульным эўрапейскім доме». Таму гісторыя кантынэнта разглядаецца цэльна — разам заходняя ды ўсходняя часткі, разам з Расеяй. Раней выйшла б кніжка «Зарубежная Европа». «Узьяднаньне» выглядае пакуль досыць схематычна, рэальная глыбінная сувязь, калі яна й ёсьць, не паказаная.

Асобным разьдзелам падаецца ВКЛ. Аўтарка яго — зь беларускага гледзішча досыць тэндэнцыйная дасьледчыца А.Харашкевіч (А.Л.Хорошкевич). Яна спэцыялістка па гісторыі таго рэгіёну Ўсходняе Эўропы, які паглынаецца Масковіяй, і які ў выніку й ёсьць Усходняй Эўропай. Адпаведна й гісторыя ВКЛ тут выглядае як пэўнае непаразуменьне, як лягічная зададзенасьць, і падзеі канца XVIII ст. дэтэрмінаваныя ўжо ў XIV—XV стст. Адсюль стандартны набор з «паняволеньнем літоўцамі рускіх зямель» і «Вильнюсом» у XIV ст. Дзе валадары Міндоўг, дзе была ягоная сталіца, — наваʼня ўказана. Між тым асноўныя вехі гісторыі ВКЛ XIII—XV стст. лягічна вызначаны й кампактна пададзены. (Беларуская гісторыяграфія такога ўдалага прыкладу суадносінаў аб'ёму й зьместу не дае.)

Істотна яшчэ, што кніжку гэтую я здолеў набыць у Вільні, у дзяржаўнай кнігарні. У Менск яна паступала толькі па прыватных каналах.

**• Русские (этносоциологические очерки). Москва: Наука, 1992. — 464 с.**

Кніжка, якую пачалі ствараць яшчэ ў 70-х гадох, нібы прадбачыла сучасныя зьмены. Таму й з'арыентаваная яна ня проста на сацыялягічнае вызначэньне расейцаў як этнасу, але на прыхаваны пошук розьніцы паміж расейцамі на сваёй радзіме й расейцамі ў іншых краінах былога СССР. І дзіўна, што такі пошук вёўся ўжо тады, калі сярод расейцаў у іншаэтнічным асяродзьдзі была менш выяўленая нацыянальная самаідэнтыфікацыя, калі галоўнаю прыкметаю самаадчуваньня расейскай нацыі значыла жыць у СССР (на гэтае паказваюць вынікі сацыялягічных апытаньняў). Атрымліваецца, навука мае ўласьцівасьці прадбачыць, пачаўшы загадзя тэарэтычныя дасьледаваньні сёньняшніх палітычных рэаліяў. Прычым паказаны сам мэханізм узьнікненьня праблемы падзелу расейцаў, сынхранізаваны і з сувэрэнізацыяй карэнных нацый: на працягу 70-80-х гадоў у 14 рэспубліках чым далей, тым больш расейцы пераставалі вылучацца адукацыяй і сацыяльным статусам. Калі слабелі цэнтралізаваныя мэханізмы гвалту, расейцы прайгравалі карэнным народам менавіта там, дзе яны былі найбольш адлучаныя (ці самаізаляваныя) ад культуры нацый, што далі назвы дзяржавам (тытульных нацый).

Паралельна практычна робіцца выснова, што зьбліжэньне нацыяў у такіх парамэтрах як адукацыя, сацыяльная актыўнасьць не адэкватнае паняцьцю «сяброўства». Але зьбліжэньне структур нацый можа азначаць узмацненьне адносінаў спаборніцтва. Аўтары, такім чынам, прама не напісалі, але практычна змадулявалі пагаршэньне становішча расейцаў па-за сваёй этнічнай тэрыторыяй.

У працэсе вяртаньня беларусамі сабе сваёй гарадзкой і палітычнай прасторы мы павінны ведаць, што па ранжыроўцы слоў у адпаведнасьці з частатой іх ужываньня слова «трэба» займае практычна чацьвертае месца з 610 вылучаных у расейскай мове рангаў. У той жа час дзеясловы «пераконваць», «растлумачваць», «тлумачыць» адпаведна 36, 21, 15.

**• дэ Мабли Габриель-Бонно. Об изучении истории. О том, как писать историю. — Москва: Наука, 1993. — 414 с. («Памятники исторической мысли»).**

Гэтыя творы XVIII ст. сьведчаць, што ўсе парады «Аб вывучэньні гісторыі» й «Аб тым, як пісаць гісторыю» рана ці позна робяцца «Помнікамі гістарычнай думкі». Мы бачым, што маралісцкая тэрміналёгія, якая панавала да апошняга часу ў нашай гісторыяграфіі, мае вытокі ў Асьветніцтве. Тады мы па-інакшаму разумеем трыяду часу, агульную ў сваіх эмацыйных афарбоўках і для Асьветніцтва, і для марксызму: мінуўшчына — цяперашчына — будучыня. Сярэднявечча абвяшчалася «цёмнымі вякамі» ўціску й гвалту, гэткае сьцьверджаньне падтрымлівалася перабольшаным уяўленьнем аб узроўні асьвечанасьці сучаснае супольнасьці й падмацоўвалася шмат у чым ілюзорнымі спадзевамі на будучыню.

У сьвятле такіх унівэрсалісцкіх канцэпцый адукаваныя сарматы Рэчы Паспалітай будуць выглядаць дзівакамі. Ёсьць непадабенства да ўласнае схемы, таму ў Маблі й прадукуецца скептыцызм ("велічныя абшары населеныя, але зь неахайнасьцю апрацоўваюцца прыгоннымі"). Падобныя настроі паспрыялі фармаваньню грамадзкае думкі адносна факту ліквідацыі Рэчы Паспалітай, ня даўшы яе народам скарыстаць той шанец, які выпаў ім у другой палове XVIII ст. Але недзе прыглушаючы самога сябе, і тым самым выклікаючы ў нас новыя (прахваныя) пытаньні, францускі мараліст спачувае цэнтральна-ўсходнеэўрапейскай фэдэрацыі: «Адзіная надзея добрых грамадзян заключаецца ў тым, што суайчыньнікі іхнія, дазваньня стомленыя сваімі няшчасьцямі й заганамі, якія падпарадкоўваюць іх Расеі, расплюшчаць ім вочы, ды пагодзяцца яны ад прыкрасьці стварыць установы, каторыя забясьпечаць ім свабоду, вартую іх мужнасьці».

Ян Грэчыц

# Праект другога выданьня

**• Кулагін А.М. Адраджэньне готыкі. Менск, «Полымя», 1993. 71 с. (Сэрыя «Помнікі беларускага дойлідства»).**

Готыка зьявілася на Беларусі на мяжы XV—XVI стст. ужо ў сваім позьнім варыянце, пераплеценая з рэнэсансам. Да гэтага паўтара стагодзьдзі быў амаль поўны застой у мураваным дойлідзтве. Вянцом муравнае готыкі ў Вялікім Княстве Літоўскім стаўся касьцёл Сьв. Ганны ў Вільні. Яго архітэктура ня мае аналягаў ні на Беларусі, ні ў суседніх краінах. Паводле часу свайго стварэньня гэты шэдэўр (1581 г.) значна адстае ад эўрапейскае готыкі. Нейкае падабенства кшталту мы можам знайсьці ў паўночнаіталійскім дойлідзтве (да прыкладу, сабор у Арывіета XIII ст.). Калі пад нэаготыкай разумець экспарт дасканалага анахранічнага ўзору, то Сьв. Ганна — першы ў нас помнік нэаготыкі.

Між тым з тэрмінамі «псэўдаготыка» й «нэаготыка» найчасьцей зьвязваюць рамантычны гістарызм XVIII—XIX стст. Гэта значыць, што псэўдаготыка была прынесеная на Беларусь праз Расею, разам з пачаткам акупацыі ў канцы XVIII ст.

Прычына такой розьніцы трактовак — у атаясамленьні тэрмінаў. Рэч у тым, што псэўдаготыка (несапраўдная готыка) існавала ў межах стылёвых кірункаў клясыцызму й эклектызму. Яе роля была чыста дэкаратыўная, «гатычныя» элемэнты не адпавядалі ні нутранному ўбраньню, ні канструкцыі будынкаў.

Расейскія архітэктары канца XVIII ст., ці то стаміўшыся ад клясыцызму, ці то з тугі па Эўропе, пачалі дазваляць сабе «гатычныя фантазіі». Пачатак гэтаму паклаў В.І.Бажэнаў (сядзіба ў Царыцыне, падмаскоўныя цэрквы ў Знаменцы, Быкаве ды Балаўнёве). За ім да псэўдаготыкі зьвярнуліся Казакоў, Фельтэн, Брэнна, Быкоўскі ды іншыя.

У сэквэстраваных гарадох ды мястэчках Беларусі новыя расейскія ўлады імкнуліся рамантызаваць экзотыку заходніх губэрняў, дый архітэктарам тут выпадала «пасвавольнічаць» на правінцыі. Так пад канец XVIII ст. узьнікла ратуша ў Чачэрску, сядзіба «Піпэнбэрг» пад Магілёвам ды яшчэ тузін падобных экспэрымэнтаў на ўсходзе Беларусі. Усе яны былі клясыцыстычнымі паводле канструкцыі й прапорцый, але «прыпудраныя» псэўдагатычнымі элемэнтамі. У гэты ж самы час у цэнтральнай і заходняй Беларусі дагарала барока.

Пасьля паўстаньня Касьцюшкі, напалеонаўскай кампаніі й паўстаньня 1831 г. зь Беларусі былі вымушаныя эміграваць многія архітэктары й мастакі. Знаёмства з рамантызмам у Эўропе стала для іх не бясплённым. Па вяртаньні выгнанцаў, у сярэдзіне XIX ст. псэўдаготыка шырока распаўсюдзілася ў краі, асабліва ў палацава-паркавым будаўніцтве (Сьмілавічы, Косаў, Прылукі, Крычаў ды інш.), у мэмарыяльнай малой архітэктуры (касьцёлы ў маёнтках у Сар'і, Багушэвічах; капліцы й пахавальні на Кальварыі ў Менску, у Ракаве, Сапоцкіне і г.д.). Гэтую групу помнікаў характарызуе неадпаведнасьць зьнешняга вобразу і ўнутранай пляніроўкі, сыстэмы канструкцый, зьмешваньне стылёвых элемэнтаў (пераважна з клясыцызмам).

Зь сярэдзіны XIX да сумежжа XX стст. з адыходам клясыцызму захапленьне гістарызмам становіцца агульным. Найбольш яскрава гэта выявілася ў сакральным дойлідзтве. Цэрквы будуюцца ў псэўдарасейскім, псэўдавізантыйскім стылях, сінагогі й мячэты — у псэўдамаўрытанскім і г.д. Такім чынам культавая архітэктура эклектызму імкнулася да сваіх гістарычна-нацыянальных прататыпаў. Псэўдагатычны выгляд атрымалі пратэстанцкія храмы (кальвінскі збор у Слуцку, лютаранскія кірхі ў Горадні й Полацку) і большасьць каталіцкіх касьцёлаў (у Крычаве, Рагачове, Раўбічах, Хвойніках, Сьв. Роха ў Менску). Псэўдагатычныя элемэнты патрапілі нават у праваслаўныя (Кузьмічы Ваўкавыскага, Слабада Мядзельскага, Барок Слуцкага раёнаў) і юдэйскія храмы. У псэўдагатычным стылі ствараюцца будынкі ва ўсіх галінах грамадзкага й прамысловага будаўніцтва.

Псэўдаготыка гэтага часу характарызуецца большым памкненьнем да гістарычнай стылізацыі, але зьвяртаецца да няпэўных прататыпаў, часьцяком зьмешваючы гатычныя, раманскія ды рэнэсансавыя элемэнты. Напрыклад, касьцёл Сьв. Казіміра 1890 году ў Ліпнішках, нягледзячы на гатычную кампазыцыю, абліцаваны колатым гранітам, на манэр дараманскае архітэктуры альпійскіх краін; рэзка падкрэсьліваюць гэтую неадпаведнасьць сыгнатуркі на вежы, занадта дробныя пры агульным манумэнтальным выглядзе помніка. Псэўдагатычныя будынкі гэтага часу маглі тынкавацца, бяліцца, ня мець нават дэкаратыўных кантрафорсаў і г.д.

У XX ст. сытуацыя рэзка зьмяняецца. Эклектызм распаўся на зусім пэўныя стылёвыя кірункі: «нэаготыку» і шчыльна зьвязаную зь ёю нэараманіку, нэабарока, нэаклясыцызм, «мадэрн».

«Нэаготыка» як такая змагла разьвіцца на Беларусі толькі ў XX ст., разам з павелічэньнем досьведу мясцовых архітэктараў, эканамічным пад'ёмам у краі ды лібэралізацыяй рэлігійнае палітыкі ў Расеі. Нягледзячы на сваю эфэмэрнасьць сярод сьціплай забудовы мястэчак і вёсак, «нэагатычныя» бажніцы й палацы арганічна ўвайшлі ў беларускі урбаністычны краявід. Праз сьведамае ачышчэньне формаў, імкненьне адпавядаць (нават у канструкцыі) пэўным прататыпам (Скандынавіі й Балтыі), увагу да ландшафту «нэаготыка» на Беларусі стала вядучым стылем архітэктуры пачатку XX ст., што фактычна супала з працэсам фармаваньня беларускае нацыі.

Нацыяналіст



# СНЫ

Антон Сіюль

***Халодным травеньскім ранкам я брыду па бруку праз старыя прысады ліпаў і дубоў. Іх варанёныя камлі зіхцяць, як мораная гліна велізарных вазаў.***

***Сьцяжына йдзе ўгару. Дрэвы расступаюцца перад вялікай бажніцай, да якое з дарогі вядуць цыклапічныя каменныя прыступкі. Руды граніт, рудая цэгла, хвалі даxоўкі зачароўваюць сваёй матар'яльнасцю сярод акварэльнага паветра. Здаецца, гэтая спаруда толькі вылузалася з густога дзірвану.***

***Гранітны партал шырока расхінаецца, дэманструючы сілу падуг, якія нясуць высокую стромкую званіцу.***

***Гостры шпіль тускна мігціць, як нэонавая хірургічная прылада. Бажніца зьдзіўляе прастатою й дакладнасьцю. Стрэхі кожнае яе часьціны — нібыта роўніцы прыступкаў, ад сакрыстыяў да абсіды, ад трансэпту да наваў, ад званіцы — да неба.***

***Я доўга пасьля шукаў гэты храм. Але ў Вільні яго няма...***

Дойлідзтва ўвасабляе сыстэму ўяўленьняў людзей пра іх месца ў прасторы, пра іх біялягічны оптымум і здавён узвышаецца па-над іншымі відамі чалавечай дзейнасьці. Архітэктура як фактар татальны, ствараючы штучныя вымярэньні, ёсьць начыньнем для цывілізацыі. Яе сьценкі адмяжоўваюць людзтва ад вонкавага сьвету й замыкаюць ва ўнутраным, дзе ўжо архітэктурны кшталт дыктуе сваю ўсеабдымную сыстэму эстэтычных уяўленьняў.

У розныя эпохі розныя народы па-свойму інтэрпрэтавалі гэты фактар. Адныя рабілі калёны ў выглядзе людзей, другія — паставы людзей у выглядзе калёнаў. Адныя прамаўлялі праз архітэктуру. Другія падпарадкоўваліся ёй. Адныя народы пакаленьнямі будавалі піраміды й вялікія сьцены, другія будавалі для сябе, не вырастаючы ў гатовым начыньні, а карыстаючыся ім.

Беларусь, на працягу стагодьдзяў пазбаўленая магчымасьці ўголас прамаўляць праз рэлігію, гаспадарства й пісьменства па-свойму, знаходзіла выраз сваёй тоеснасьці ў будаўлянай традыцыі. Да-прыкладу, што ў нас больш красамоўна сьведчыць пра Рэфармацыю, як ня тузін збораў эвангелікаў мяжы XVI—XVII ст. У той пэрыяд архітэктура на Беларусі стала сродкам палемікі. Фармуючыся, яна фармавала людзей ў несупынным дыялёгу. Бо не было адной ідэалёгіі, аўтарытарнай тыраніі, каб дыктаваць маналёг каменных муроў.

Для народаў, канфэсіяў і станаў дойлідзтва было адной моваю, якую прымушаны быў слухаць кожны. Вось жа ня кожнага прымусіш узяць у рукі «ня тую» кнігу, зайсьці ў іншую бажніцу.

Розныя канфэсіі імкнуліся сьцвердзіцца празь візуальнае ўвасабленьне сваёй рацыі ў выглядзе храма. Гэтае стваральнае спаборніцтва ў вышыні, харастве й бляску сфармавала фон урбанізацыі ў ВКЛ. Калі на плошчы ставілі царкву, тут жа было месца й для касьцёла, для ратушы паміж імі, пасьля — навыперадкі слупуюць пляцоўкі ўніяты, кальвіністы, юдэі, музульмане, стараверы... Такія задачы ня ставіліся перад сакральнай архітэктурай ні на Апэнінах, ні ў Скандынавіі. Славуты Гляўбіц праектаваў бажніцы для ўсіх канфэсіяў, за 30 гадоў (з 1737 па 1767) зьнітаваўшы імі край ад Вільні да Мсьціслава, ад Полацка да Сталовічаў. Рознасьць канфэсіяў стала беларускай этнічнай адметнасьцю, што прадвызначала й сьвецкую традыцыю. Замкі, палацы, ратушы, кампілюючы ў сабе ўсе кшталты, арганічна ўваходзілі ў беларускі урбаністычны краявід.

Беларускае дойлідзтва было сьведчаньнем адметнасьці, саматоеснасьці краю падчас навалы акупантаў. Ці можна сабе ўявіць, што, скажам, немцы пераўтваралі гарады Бэльгіі ці Францыі ў руіны, каб паставіць на іх свае фартэцыі? Ці магло такое рабіцца хоць у якім закутку Эўропы? Расейцы гэта зрабілі на Беларусі, сплюжылі да рэшты старыя магдэбурскія гарады з тысячагадоваю спадчынай.

Якія пачуцьці вярэдзілі душу Залескага, які напісаў панараму яшчэ не разбуранага, але асуджанага да страты Берасьця?.. Зграбныя касьцёлы, вялікія кляштары, старасьвецкія камяніцы, белы-белы горад. Але ўсё ўжо падрыхтавана да выкананьня прысуду. Залескі быў чалавек тутэйшы, не пазбаўлены таленту й сумленьня, прыняў удзел у паўстаньні 1831-га, быў засуджаны сам, сябраваў з Шаўчэнкам, Норвідам, не ўстрымаўся і ў 1863-м... Ці ня лёс Берасця й Бабруйска, якія мастак увасобіў тады, як быў яшчэ зусім малады, сфармавалі яго як патрыёта? Гэтаксама, як і праз стагодьдзе лёс паншчанай цывілізацыі фармаваў моладзь, якая праз разуменьне стратаў і горыч, высьпявала да палітычнае барацьбы за незалежнасьць.

Зь іншага боку, што адчувалі тыя расейцы-мастакі, што прыбылі на Беларусь зь легіёнамі акупантаў і «засвойвалі» гэты край? Трутнёў, Струкаў, Грозноў, пасканчаўшы Строганаўскую вучэльню ў Маскве, прыбылі сюды ў 1863-64 гг. з афіцыйным заданьнем. Яны нястомна шкіцавалі, пісалі акварэлі, «фіксуючы» то адзін, то другі храм, будынак, руіну. Рабілася гэта выбарачна, адлюстраваньню падлягалі помнікі праваслаўя й «русскости» ў Северо-Западном крае. Для Д.М.Струкава гэта была адна вялікая экспэдыцыя 1864 году — Полацак, Магілёў, Нясьвіж, Менск, некалькі мястэчак. Дзёньнік, палявыя зацемкі, стос малюнкаў — прызначаліся для мэтраполіі. Але іх вызначае шчырасьць, дакладнасьць дакумента, які сьведчыў, што край не зусім... «русский».

Для прафэсара І.П.Трутнёва Вільня стала да скону месцам падзьвіжніцтва. Седзячы тут, як на высьпе, наракаючы, што сярод дапаможнікаў для маляваньня ў Віленскай школе «в русском вкусе нет ни одного», ён сумленна фіксаваў тое, што бачыў: праваслаўную готыку Вільні, цэрквы, крыжы, камяні Полацка, Віцебска, Мсьціслава ды інш. В.В.Грызноў быў побач з Трутнёвым, але ягоныя інтуіцыя і густ падказвалі свой кірунак: Сынковічы, Мураванка, Ліда, гарадзенская Каложа... зноў Вільня. Апроч таго, яму не чужыя былі й амбіцыі дасьледчыка, публіцыста. Яго ілюстрацыямі аздобленыя кнігі П.М.Бацюшкава, трэці том «Живописной России». Бадай, ён, як ніхто зь яго суайчыньнікаў, адчуваў эўрапейскую традыцыю старабеларускай архітэктуры.

# Канец сьвету прарока Ільлі

**У Беластоку ў перакладзе Сакрата Яновіча выйшла па-польску кніжка Аляксея Карпюка «Вершалінскі рай» — пра гісторыю прарока Ільлі — Гальляша Клімовіча і яго рэлігійнай сэкты, якая ў міжваенны час гуртавала сотні людзей на Беласточчыне. З гэтай нагоды беластоцкі «Kurier poranny» 3 верасьня зьмясьціў гутарку зь перакладчыкам.**

***— Вы з тых мясьцінаў, у якіх дзейнічала сэкта Гальляша Клімовіча, і таму ведаеце пра гэты рух?***

— Не, да сталых гадоў я амаль нічога ня чуў аб прароку Гальляшу. Мясцовае асяродзьдзе ставілася да ягонай дзейнасьці з насьцярогай. Так заўсёды бывае з прарокамі, у сваёй айчыне іх ня цэняць. Грунтоўна пра Гальляша і ягоны рух я даведаўся, дзякуючы Ўладзімеру Паўлючуку, які пісаў на гэтую тэму ўжо ў 60-я гады ў тыднёвіку «Ніва», а пазьней выдаў кнігу.

***— Як вы ставіцеся да гэтай гісторыі, якую апісвае А.Карпюк?***

— Мае адносіны да сэкты Клімовіча можна акрэсьліць так: была такая сялянская антыклерыкальная апазыцыя. Гэта ня быў пратэстантызм. Яны, тыя апосталы, не маглі стварыць якуюсь асаблівую дактрыну. Гэта антыклерыкалізм, які мае пад сабой грамадзкі грунт. Калі ж казаць пра містычны аспэкт, гэта была спроба селяніна паразумецца з Богам без пасярэдніцтва сьвятароў. Сьвятое Пісьмо яны трактавалі даслоўна. Чыталі пра сьвіней, якія пажэрлі пэрліны, дык сьвіней мелі сваіх, а пэрлінаў трэба было пашукаць. Ня ўлоўлівалі тае мэтафарычнасьці Бібліі, літаратурнага тэксту.

***— Што вы думаеце аб пратэстах людзей з «Przeglądu Prawosławnego» супраць публікацыяў на тэму Ільлі?***

— Мяркую, што гэта выключна палітыка. Ані ў кніжцы А.Карпюка, ані ў працах Паўлючука, ані ў іншых тэкстах пра сэкту я ня чую ніякіх антыправаслаўных адгалоскаў, у сэнсе дактрыны. Тыя вяскоўцы не былі ў стане выпрацаваць дактрыну, бо на гэта трэба мець адукацыю, а яны былі анальфабэты. Там шмат антыклерыкалізму, але антыклерыкалізм — гэта не антыправаслаўе. Калі б гэта была антыправаслаўная рэч, я б за яе па-просту ня браўся.

***— Гэта не «Сатанінскія вершы»?***

— Не... Такія закіды — гэта перадвыбарчая гульня. Зрэшты, аднолькавае няшчасьце і рымакаталіцкай, і праваслаўнай канфэсій, што наступ на клер успрымаецца як атака на самую рэлігію. Але ж сьвятары не рэфэрэнты Бога, дзякуй Богу! Яны мусяць служыць вернікам у вызнаваньні веры. Тады як успрыманьне сьвятара — каталіцкага ці праваслаўнага — як упаўнаважанага Богам — гэта глупства. Гэта наўпрост небясьпечна для рэлігійнасьці людзей. Калі ўдавацца ў аналёгіі, дык на

Для беларусаў архітэктурная спадчына, якая не давала забыцца пра мінуўшчыну краю, стала крыніцай натхненьня. Аднаўлены жанр — архітэктурны краявід, які меў глыбокую традыцыю, стаў у XIX стагодзьдзі выключнай магчымасьцю культурніцкае апазыцыі акупантам.

Неўзабаве пасьля падзелаў Рэчы Паспалітай на Беларусь прыяжджае Юзаф Пешка. У 1793-1812 гг. ён жыве ў Горадні, Менску, Вільні, Дукоры, наведваецца ў Расею. Мастак мысьліў сябе як манумэнталіст, не без прэтэнзіяў на эпічныя тэмы (дарэчы, як і ягоны настаўнік Ф.Смуглевіч). Але застаўся ў беларускім мастацтве як партрэтыст і аўтар ёмістага цыклю архітэктурных краявідаў Беларусі. Шляхотны ўтульны Менск, легендарны Магілёў, што мажна разьлёгся па Дняпры, Віцебск, пра які з захапленьнем казаў Рэпін: «Божа-ж мой, гэта ж наш расейскі Таледа!» Руіны замкаў, вуліцы гарадоў у Пешкі нібы паснулі. Сон апанаваў Беларусь, але велічныя муры, ветразі барочных франтонаў, званіцы, шпілі памятаюць як бруіла тут жыццё, якія былі фэсты ды кірмашы.

Яну Дамелю пашанцавала меней. Пасьля Табольска, Томска ды Енісейска ён селіцца ў 1822 г. ў Менску, дзе і спачыў. У Сібіры ён размалёўваў касьцёлы, на Беларусі браўся за гістарычную патэтыку. Але там, дзе быў шчыры, застаўся непераўзыдзены. Вільня паўстае ў ягоных працах, як велічная дэкарацыя для гістарычнае драмы. Людзі дзеюць пад калёнамі вечнага гораду як недарэкі, што парушылі яго мэмарыяльны спакой.

А ў Менску Дамель не ўстрымаўся ад простых і шчырых замалёвак гораду й навакольля...

Калі гляджу на здымак Н.Орды, не магу адвярнуць увагі ад шчыльна самкнёных вуснаў працавітага ўпартага чалавека, ад засяроджанага позірку з-пад ссунутых броваў. Пакаштаваўшы, як і Залескі, паўстанцкага быту, у 1832-м мусіў зьехаць у Парыж, дзе вучыўся мастацтву. А па вяртаньні на Радзіму абыйшоў яе ўздоўж і ўпоперак. Як трубадур славіць сваю абраньніцу, ён славіў свой край. 280 аркушоў у 8 сэрыях — гэта мог зрабіць толькі мэтанакіраваны ўпарты працаўнік. Тое, чаго не магчыма зрабіць куляй — абесьсьмяроціць здабыткі свайго народу, бальшыня якіх не перажыла твораў Орды. Яму аднолькава блізкія старажытная царква і новы касьцёл, сялянская хата і рамантычны палац, усё ў гэтым краі было ягоным. Дакумэнтальныя замалёўкі, часам ляпідарныя, але прасякнутыя рамантыкай адыходнае эпохі, захаваліся, «на памяць».

Рамантычны пэйзаж існаваў у многіх народаў. Але нідзе ён не набываў такой сацыяльнай значнасці. Не само па сабе мілаваньне дэталямі архітэктурнага краявіду, а той падтэкст, які яно можа несьці, рабіў яго такім устойлівым, самым нацыянальным жанрам. Гэта ня проста замак на гары, — яго патрушчылі сёньняшнія акупанты, гэта ня проста палац, — яго гаспадар ужо закатаваны ў Сыбіры, гэта ня Ратуша, дзе грае аркестар па сьвятах, — яе ўжо загадалі зруйнаваць, гэты касьцёл ўжо не касьцёл, а кляштар — ня кляштар. Гэта край наш, які ўжо ня наш.

Афорты Піранэзі, ці вэдуты Бэлотта ня мелі патрэбы «вязаць вузялкі» на ўспамін, іх гарады ўсе — «вечныя». Па-дзіцячаму рыдаць над пяшчаным горадам, што змыла хваля, ды каўтаць сваю безабаронную роспач прымушалі беларускія пэйзажысты-"рамантыкі", былыя паўстанцы, вязьні, эмігранты...

У Дабужынскага ў гарадзкіх краявідах больш свайго «Я-а». Пазбаўлены ілюзій і самагіпнозу, ён быў нават саркастычны, малюючы адно гарады. Вільня, Пецярбург, Лёндан, Мюнхен, Нэапаль і ўрэшце Віцебск, дзе быў дырэктарам народнай мастацкай школы. Але якія яны ў яго розныя! Пецярбург, чыю архітэктуру ён вывучаў «па-сапраўднаму» — гэта горад-манэкін, у якім самотна й страшна. Ужо жывучы ў Коўне, ён здолеў асэнсаваць Пецярбург, рыхтуючы ілюстрацыі да Дастаеўскага. Гарады Захаду зь нізкі «Гарадзкіх сноў» 1912—1922 гг. — для яго проста Горад. Але колькі летуценнасьці ў віленскіх і віцебскіх краявідах! Тут ён дома, тут ён гаспадар, але тут ізноў усё, як у сьне. На золку ці на апошнім промні спыняе ён гадзіньнік, бо астатняе — толькі чужынскі тлум. Старажытная гісторыя, паданьні і ўсе гарадзкія таямніцы Вільні й Віцебска былі яму вядомыя. «У асобе Дабужынскага, у яго мастацкай творчасьці злучаўся рускі вялікадзяржаўны шовінізм зь беларускім контррэвалюцыйным нацыянал-дэмакратызмам.» ("Полымя рэвалюцыі", №3 за 1934 г.)

Зь яго работаў глядзеў Беларускі горад. Пустымі вачніцамі храмаў, падсьлепаватымі вокнамі, нішамі, аркамі некалі слаўнага места, якому ўжо наканавана было пайсьці ў нябыт...

У Шагала ня Віцебск сьпіць, а самы сон напоўнены, насычаны Віцебскам...

«...Мінін у сваёй творчасьці захапляецца папскім рэакцыйным барока...» ("Трыбуна мастацтва" №4 за 1925 г.)

Больш здолеў зрабіць Драздовіч. Ён літаральна фэтышызаваў краявіды гарадоў і мястэчак, руіны й курганы. У Драздовіча яны паўстаюць нібы на іншай плянэце, на якой няма пакутаў і занядбаньня. А сапраўды фантастычныя сны пра Месяц і Марс нібы падгледжаныя з вакна рэальнае хаты. Там існавала яго Беларусь, у мурох замкаў Ліды і Крэва, менскага Трыбуналу, у гляўбіцавых вежах, пругкім барока...

Рэліктавы рамантызм...

Невыпадкова й сёньняшняе Адраджэньне распачыналася ў суполках, дзе была рупнасьць пра архітэктурную спадчыну, як квінтэсэнцыю нацыянальнай традыцыі. Увага да ацалелых помнікаў, старых фатаздымкаў, рэканструкцый, малюнкаў Пешкі, Орды, Драздовіча будзілі сьвядомасьць. Сфармавалася цэлая плынь у беларускім мастацтве, літаратуры, кіно 80-90-х гг., якая стала найбольш адэкватнай праявай нацыянальнай сьвядомасьці, здольнай аб'яднаць усю культурную частку грамадзтва ў незалежнасьці ад сацыяльных станаў, адукацыі й нават мовы. Акцыі гэтага руху, да прыкладу, перад будынкам першай опэры (пляц Волі), сталі праявамі рэальнай палітычнай апазыцыі. Супраціўленьне гвалту над натуральным асяродкам, у якім да расейскай акупацыі йснавала беларуская цывілізацыя, стала ня столькі супраціўленьнем камуністам, колькі таму мэханізму, што быў запушчаны напрыканцы XVIII ст. Гэтая акалічнасць ня мае простых аналягаў у пасьлякамуністычнай Эўропе. Наша Адраджэньне й лёс здабыткаў дойлідзтва, як матар'яльнага ўвасабленьня спэцыфікі духовага, мастацкага й палітычнага досьведу нацыі, адзінага й непадзельнага, зьнітаваныя ў адзін двухсотгадовы боль.



гэтым пацярпелі крах камуністы і атэісты, калі функцыянэраў пачалі атаясамліваць з самой ідэалёгіяй.

***— Паўлючук апісвае грамадзкія абставіны, у якіх нарадзіўся рух прарока Ільлі — крызыс вёскі, бядота. Варта задумацца над прычынай, дзеля якой тэма Гальляшоўцаў сёньня перажывае рэнэсанс.***

— На гэта трэба глядзець праз кантэкст часу. Цяпер увогуле назіраецца зварот да стану *emotio,* стану пачуцьцяў, які прыходзіць пасьля стану *ratio* — розуму. Такое ваганьне вядомае знаўцам культуры, *ratio* супадае з пэрыядамі дабрабыту, пасьля якіх наступае рэцэсія, крызыс. Заўсёды так, як у тым прыслоўі «Як трывога, дык да Бога».

***— Але ўласна Ільлі Клімовічу не ўдалося. Горад Вершалін, які мусіў быць для вернікаў сховам перад канцом сьвету, ня ўзьнік. Калі пачалася вайна, сэкта распалася...***

— Прарока Ільлю стварыў сам гістарычны момант. У той час такіх сэктаў было мноства: недзе на Валыні, недзе каля Наваградка, каля Налібоцкае пушчы, каля Берасьця і гэтак далей. Людзям цяжка жылося. Вёска перажывала сваю драму. Польшча толькі ў 1938 годзе дасягнула гаспадарчага ўзроўню 1913 году. Заўсёды, калі цяжка, калі няма выйсьця — творыцца нешта падобнае. Так як цяпер на вёсцы ізноў. Паўстае гэтая шалёная «Самаабарона» Loppera, партыя Тымінскага зь вясковым і маламестачковым электаратам. Я не зьдзіўлюся, калі пачне адраджацца і гэтая сэкта! Толькі ня бачу для яе шанцаў. Бо беластоцкая вёска ў людзкім сэнсе вынішчаная амаль цалкам. На вёсцы няма людзей, ёсьць толькі старыя, якія чакаюць свае сьмерці. Ці ведаеце, што гміна Крынкі, адкуль паходзім я і прарок Ільля мае толькі 500 сельскіх падаткаплацельшчыкаў альбо гаспадароў, а сярэдняя гміна ў Польшчы мае іх 1200?!

***— Ільля не ўратаваў сваіх вернікаў перад вайной. Не захаваў таксама іх нашчадкаў ад нэндзы, якая прыйшла 60 гадоў пазьней.***

— Канец сьвету, які прадказваў Гальляш, відавочна наступіў, хіба што ён яго сабе інакш уяўляў. Калі вы паедзеце ў Грыбоўшчыну, спаткаеце там толькі пару старых. Тога сьвету — сьвету прарока Ільлі — ужо няма.



# Генадзь Сагановіч

## ФРАГМЭНТ НЕНАПІСАНАЙ КНІГІ

Nihil est intelectu,
quid non fuerit prius in historia.

Franz Xaver von Baader

Свабодны чалавек ператвараецца ў раба толькі з трансфармацыяй ягонай сьведамасьці, разбурэньнем памяці. Гэтаксама з народам. Таму, падпарадкаваўшы яго палітычна, умешваюцца ў нацыянальную гісторыю. Інтэрвэнцыя ў мінулае, якая немінуча наступае пасьля акупацыі, — лёс кожнага «забранага краю». Беларусь тут бадай эталённы прыклад.

Цяпер бальшыня беларусаў наагул ня мае дачыненьня да сваё мінуўшчыны, амаль не рэагуе на яе, існуе быццам па-за гістарычнай прасторай, — без гісторыі. Гэта стан, падобны на фелахства — апошнюю стадыю жыцьця народа, калі той адно маўчыць і цярпіць... Уласнай «контаргісторыі», якая магла б паўплываць на сьведамасьць грамадзтва, за ўсе падкаляніяльныя часы ў нас так і не было створана. Адкуль магло ўзяцца гістарычнае мысьленьне народу, на чым маглі ўзгадавацца беларускія палітыкі, навукоўцы, творцы мастацтва?..

Пры ўсёй зьмястоўнасьці й драматычнасьці свае мінуўшчыны, мы ня маем гісторыі як рэфлексіі, як кампанэнту грамадзкай сьведамасьці. Мы дасюль ня маем кнігі, якую можна было б лічыць сынтэзам беларускай гісторыі. Гэта значыць, у нас яшчэ не было гісторыяграфіі, здольнай стварыць такую кнігу. Эпоха містыфікацый і рамантызму, калі народ магла ўмацаваць простая гераізацыя яго мінуўшчыны, даўным-даўно адыйшла, так і не скарыстаная намі. Цяпер жа, думаю, аніякая Легенда, якой бы яна ні была натхняльнай, аніякі таленавіта падроблены старабеларускі летапіс, які б ён ня быў сэнсацыйны, не здабудуць тае вагі й грамадзкае значнасьці, што магла б мець сьціплая, але сьцьвярджальная навуковая тэорыя. Цяпер усё можа вызначыць толькі гістарычная навука. Не таму, што яна можа прапанаваць урокі й прыклады, не. Гэта для сярэднявечча гісторыя была *magistra vitae*. Для нас сёньня важнае адэкватнае разуменьне таго, як дайшло да цяперашняй сытуацыі, разуменьне гістарычных умоваў, выхаваньне гістарычнага мысьленьня ў грамадзтва. Усё гэта — кампэтэнцыя сучаснай гістарычнай навукі.

Ды вось жа, афіцыйная гісторыяграфія Беларусі як такая была й застаецца старой, не адпаведнай часу, бэсэсэраўскай — і арганізацыйна, і мэтадалягічна, і паводле ўнутрыдысцыплінарнай структуры. Яна па-ранейшаму працуе на адным узроўні — узроўні фактаграфічнай візіі. Большая частка ейнай прадукцыі — публікацыі сабраных архіўных і археалягічных матэрыялаў, добра калі сумленна клясыфікаваных і апісаных, — тое, што ёсьць працай чыста рэканструкцыйнай, нават не эмпірычным дасьледаваньнем. Дзе ўжо тут казаць пра дасьледаваньні тэарэтычныя! Цэлыя стосы манаграфій сваім зьяўленьнем не дадалі нічога якасна новага да нашых ведаў пра мінуўшчыну. Пасьля шырокіх археалягічных досьледаў, праведзеных у сярэднявечных гарадох Беларусі, апісаньня адкапаных чарапкоў і падмуркаў, ці шмат мы ведаем пра сацыяльны сьвет старабеларускага места? Хоць аграрная тэматыка карысталася нязьменным прыярытэтам афіцыйнай навукі, ці ведаем мы рэальнае аблічча й штодзённае жыцьцё сярэднявечнай беларускай вёскі?..




Хто зусім сьведама, хто стыхійна, гісторыкі Беларусі ў бальшыні сваёй па-ранейшаму пільнуюцца мэтадалягічных асноваў марксізму(-ленінізму). Гэта для іх, відаць, як і раней, адзіна правільная, адзіна навуковая, а значыць і ўнівэрсальная, усеагульная тэорыя пазнаньня. Аб'ектыўнасьць, прыярытэт матэрыяльнага над ідэальным, вучэньне аб паступальным прагрэсіўным разьвіцьці чалавецтва, якое ўкладваецца ў пяць грамадзка-эканамічных фармацыяў, — вось галоўныя прынцыпы, што вызначаюць гэтае пазнаньне.

Шмат чаго паўтараецца часам толькі таму, што аднойчы яно было выказана. Гэтак, напэўна, і з аб'ектыўнасьцю. Бо гаварыць пра аб'ектыўнасьць навуковых ведаў цяпер, пад канец XX ст., мякка кажучы, наіўна. Гістарычных ведаў — тым болей. Бачаньне мінулага ня можа ня быць суб'ектыўным. Аб'ектыўнасьць у гісторыяграфіі — усяго толькі імпэратыў, што вымагае ад гісторыка як мага больш дакладнай рэканструкцыі мінуўшчыны. Хоць цалкам гэта недасягальна, як і яе поўнае пазнаньне.

Даўно адмовіліся ў сьвеце і ад народжанай яшчэ ў XIX ст. ідэі лінейнага прагрэсу. Гісторыкам-марксістам зручна верыць, што чалавецтва няўхільна разьвіваецца, што кожнае грамадзтва йдзе «наперад і ўверх», па сьпіралі, адно хутчэй, другое павальней, і абавязкова дасягае наступнай грамадзка-эканамічнай фармацыі. Гэтае вучэньне — своеасаблівая тэалёгія савецкіх гісторыкаў. Прагрэс быў непазьбежны, і на яго, паводле «аб'ектыўных законаў», асуджаліся цэлыя народы. А тое, што па-за сканструяванымі фармацыямі заставалася ўсё духовае жыцьцё народаў, этнічныя працэсы, тое, што ў гісторыі безьліч прыкладаў рэгрэсу, заняпадаў і выраджэньняў, — усё гэта не заўважалася. Як і тое, што падзелы на «базісы», «надбудовы», «фармацыі» наагул не спрыялі пазнаньню, бо ня мелі з рэальным жыцьцём бадай нічога агульнага.

Старая Эўропа зь яе чароўнай культурай даўно загінула. Ужо з часоў марксізму памерлі дзясяткі народаў. І нашая будучыня наўрад ці лепшая за мінуўшчыну. Таму ілюзорнасьць няўхільнага грамадзкага прагрэсу відавочная. Як і ілюзорнасьць «аб'ектыўных законаў» гісторыі наагул. У гісторыі нічога не паўтараецца. Высновам, што зробленыя ў выніку дасьледаваньня пэўных падзей ці зьяваў пэўнага часу, нельга надаваць статус сацыялягічных абагульненьняў. Разьвіцьцё грамадзтва ня можа адбывацца паводле «аб'ектыўных законаў», бо яно — поліварыянтная рэальнасьць, якую вызначаюць воля й дзеяньні людзей.

Вось жа й людзкія паводзіны ў марксісцкай навуцы зводзіліся да аб'ектыўных умоў існаваньня, да матэрыяльнага боку жыцьця. Але дасьледаваньне матэрыяльных фактараў самых па сабе яшчэ не дае сапраўднага пазнаньня мінуўшчыны, бо яны не тлумачаць матываў чалавечых учынкаў. Перш чым стаць прычынай пэўных дзеяньняў чалавека, аб'ектыўныя ўмовы (матэрыяльны фактар) мусяць быць успрынятыя ім, гэта значыць — прайсьці праз яго мэнтальнасьць і трансфармавацца ў фактар сьведамасьці. Без уліку гэтага «фільтру» мэнтальнасьці гісторык валодае толькі вонкавай, «аб'ектыўнай» візіяй, і замест рэканструкцыі сапраўднага аблічча мінуўшчыны брутальна мадэрнізуе яго. Нашая гісторыяграфія, займаючыся эканомікай ды зрэдку палітыкай, прынцыпова недаацэньвала суб'ектыўнага фактару. Між тым якраз у суб'ектыўным кантэксьце, у сфэры духовага, а не матэрыяльнага, тоіцца рэальны сэнс гісторыі.

Зрэшты, крытычнае стаўленьне да марксізму як «унівэрсальнай», «усеагульнай», «адзіна правільнай» і г.д. мэтадалягічнай асновы мусіць вынікаць ужо з разуменьня таго, што няма нічога ўнівэрсальнага і ўсеагульнага ў гісторыі чалавецтва. Няма сусьветнай гісторыі як такой. Ёсьць гісторыя нацыянальная. Бо кожны народ — цэнтар свайго сусьвету, у кожнага — свой досьвед, свой шлях, свая дынаміка жыцьця. Менавіта нацыянальная гісторыя як рэфлексія з пункту гледжаньня самога суб'екту звычайна канцэптуалізаваная і ўпарадкаваная. Яна — лепшы шлях лягізацыі мінуўшчыны наагул.

Не разьвітваючыся з марксізмам, нашая гісторыяграфія застаецца бэсэсэраўскай. Гэтак прарыву да ведаў новага ўзроўню яна ня зробіць. Многія нашыя гісторыкі будуць па-ранейшаму проста збіральнікамі фактаў, апісальнікамі падзеяў. Зноў будуць абараняцца дысэртацыі па вузкіх тэмах з гісторыі гаспадаркі ці клясавай барацьбы, а такія падставовыя праблемы, як, прыкладам, прыкметы пэрыядызацыі беларускай гісторыі, зьяўленьне канцэптуальнай ідэі асобнасьці беларускага народу, фармаваньне беларускага нацыянальнага характару, пачаткі беларускай дзяржаўнасьці й г.д., — усё гэта так і не дачакаецца свае чаргі. Сынтэтычныя працы й глябальныя пэрспэктывы для нашай гісторыяграфіі — рэч супрацьпаказальная.

Так, застаючыся ранейшай, наша афіцыйная гісторыяграфія адстае самае малое на добрае стагодзьдзе. Ня дзіўна, што й этас, які пануе ў ёй, — з даўно мінулых часоў. Яго нормы проста процілеглыя маральным імпэратывам навукі цывілізаванага сьвету. Калі ў эўрапейскім грамадзтве адным зь першых правілаў гісторыка ёсьць унівэрсалізм, дык у нас — партыкулярызм. Калі там — незацікаўленасьць і агульнасьць, дык тут — правіла «вотчыннасьці»; вынікі досьледаў робяцца прыватнай уласнасьцю ці наагул утойваюцца. Там лічыцца нармальным скептыцызм, тут пануе арганізаваны дагматызм і самазадаволенасьць.

Не зьмяніўшы радыкальна гістарычнай навукі, не разьвітаўшыся з былой гісторыяграфіяй і створанымі ёй стэрэатыпамі, мы забясьпечым ціхі скон Беларусі.

# Алег Дзярновіч

## АПОШНІЯ ДНІ ГІСТОРЫЯГРАФІІ

На пачатку 90-х гадоў мы сталіся сьведкамі дыскусіі па праблемах беларускае гісторыяграфіі. Найбольш цэльнай плыньню тут выглядае Новая Афіцыйная Гісторыяграфія. Сацыяльна дэтэрмінаваныя (не абавязкова дзяржаваю) творы яе прадстаўнікоў могуць быць названыя Афіцыйнымі, а значыць і Новымі. Апанэнты Н.А.Г. па сутнасьці апанэнтамі яе не зьяўляюцца — прынцыпова іншую ўласна гісторыяграфію яны не стварылі.

Н.А.Г. сфармавалася як прадукт спэцыфічнага хаўрусу адэптаў марксісцкай мэтадалёгіі й той часткі гісторыкаў новае генэрацыі, што прагнуць хутчэй узяць рэванш за дзесяцігодзьдзі невыразнае працы папярэднікаў. Гэты хаўрус прадукуе дзяржаўную гісторыю — гісторыю дзяржавы, з павышанай увагай да дзяржаўных інстытуцый. Таму гэта мілітарызаваная гісторыя, дзе асноўнымі вехамі зьяўляюцца этапы супрацьстаяньня. У такой інтэрпрэтацыі пэрыяды заціша мусяць працаваць толькі на самаўзнаўленьне, рэпрадукаваньне. Магчымасьць агульнакультурных дасягненьняў у значнай ступені ігнаруецца. Канцэпцыя процістаяньня падмацоўваецца тэзаю «паміж Захадам і Усходам», якая й трактуецца як процістаяньне. Іншыя восі й акцэнты (Поўдзень—Поўнач, Усход Сярэднеэўрапейскага рэгіёну...) тут не разглядаюцца й ня ўлічваюцца. Пэрыядызацыя Н.А.Г. у параўнаньні з эўрапейскай і марксісцкай выглядае так:

| эўрапейская пэрыядызацыя | пэрыядызацыя ў Н.А.Г. | марксісцкая пэрыядызацыя |
|---|---|---|
| Старажытны час (або барбарскі час для Эўропы барбарскіх палёў) | Першабытнае грамадзтва | – Першабытны лад |
| Сярэднявечча | – Фэадальнае грамадзтва | – Фэадальны лад |
| Новы час | – Позьні фэадалізм | – У адносінах да Беларусі ня дзейнічае |
| Сучасная гісторыя | – Капіталізм, Таталітарна-сацыялістычнае грамадзтва, Пабудова рынку | – Крызыс капіталістычнае сыстэмы, Пабудова сацыялістычнага грамадзтва |

Няцяжка заўважыць, што Н.А.Г., выкарыстоўваючы эўфэмізмы, пераняла ад марксісцкае гісторыяграфіі сам прынцып пэрыядызацыі. Грамадзтва тут вызначаецца паводле сацыяльна-эканамічных катэгорыяў. Гэта пры тым, што існуе пэрыядызацыя, у грунт якой пакладзены ўнікальныя сацыяльныя катэгорыі, якія ў сваім комплексе гавораць пра непаўторнасьць эпохі з гледзішча народнай псыхалёгіі, культуры, эканомікі (прычым, у эканоміцы існуюць паўторныя моманты ці, дакладней, скразныя плыні ўкладаньняў). Гэтак узьніклі тэрміны Сярэднявечча, Новы час.

Час у Н.А.Г. разглядаецца згодна з хрысьціянскім адчуваньнем — прасталінейна. Але гісторыкі гэтае плыні ў большасьці сваёй не хрысьціяне. І зададзеная прасталінейнасьць (першабытнае грамадзтва → фэадальнае грамадзтва → ...) дазваляе ім падвяргаць час дэфармацыям, карэктаваць падзеі праз іх інтэрпрэтацыю, мадэрнізаваць іх, адштурхоўваючыся ад сёньняшняга наяўнага становішча. Падобныя падыходы выстаўляюцца апанэнтамі Н.А.Г. як заганы. Але ня гэткія падыходы самое зло.

Інтэрпрэтатар, гісторык, падыходзячы да тэксту, заўжды мае ўжо пэўнае папярэдняе яго разуменьне (перад-разуменьне), дэтэрмінаванае ўмовамі, у якіх ён жыве. Гэтае перадразуменьне мае характар перадсуду (praejudicio).

Гістарычны аналіз дадзенага паняцьця паказвае, што толькі дзякуючы Асьветніцтву паняцьце перадсуду атрымала звыклае для нас адмоўнае значэньне. Сам па сабе перадсуд азначае меркаваньне, якое выносіцца да канчатковай праверкі ўсіх прадметна-вызначальных момантаў. У мэтодыцы права перадсуд азначае справядлівае рашэньне да таго, як выносіцца канчатковы прысуд. Такім чынам, перадсуд не азначае ілжывага меркаваньня, ён можа быць ацэнены як станоўча, так і адмоўна.

На пачатку гістарычнай гермэнэўтыкі павінна стаяць разбурэньне абстрактнай супрацьпастаўленасьці паміж традыцыяй і гісторыяй, паміж гісторыяй і ведамі аб ёй. Дзеяньне жывой традыцыі й дзеяньне гістарычнага дасьледаваньня ўтвараюць дзейную еднасьць. Чалавек, каб зразумець тую альбо іншую зьяву рэальнага сьвету гісторыі альбо вытлумачыць гістарычны дакумант, мусіць валодаць пэўным «гістарычным разуменьнем», «перад-разуменьнем»; ён мусіць зразумець пэўную гістарычную сытуацыю, у якой жыве й дзейнічае, і «перадсуды», што знаходзяцца ў ім самім; ён імкнецца зразумець гістарычныя абставіны, у якіх разгортваліся падзеі мінулага, гэта значыць «ужыцца» ў тэкст, адчуць і на гэтай падставе вытлумачыць, інтэрпрэтаваць, ацаніць гістарычныя факты, падзеі, працэсы. Дасьледчык мусіць адначасова весьці дыялёг з тэкстам, зь сёньняшнім сьветам і сьветам гісторыі. Натуральна, размова тут зусім не пра тое, каб гісторык падчас свайго дыялёгу пастаянна «перапісваў» гісторыю. Гісторыя — ня «мёртвыя камяні». Гістарычныя падзеі працягваюць узьдзейнічаць на нас з адкрыцьцём новых фактаў і дакумантаў. Зь іншага боку, сучасныя задачы могуць падкрэсьліваць новыя грані ў даўняй мінуўшчыне, акцэнтаваць увагу на пэўнай праблематыцы, ставіць перад гістарычнай навукай практычныя праблемы. Усьведамленьне актуальнасьці гістарычных ведаў дазваляе адмежавацца ад рэканструктыўна-эмпірычнай традыцыі крытыкаў Н.А.Г., зразумела, што ў грунце гэтай традыцыі ляжыць ілюзія.

Ілюзія гэтая ў прызнаньні магчымаю той сфэры, якую прынята называць сфэраю душы або духу. Менавіта гэткая магчымасьць ляжыць у грунце такой працэдуры гісторыкаў Н.А.Г. і іх апанэнтаў, як *«перамяшчэньне»*. Мяркуецца, што на падставе прынцыпова аднолькавай будовы духоўна-душэўнага сьвету аўтара й чытача (або ізатропнасьці й ізаморфнасьці прасторы іх сьвядомасьці) магчымае бесьперашкоднае перамяшчэньне з адной кропкі гэтага сьвету ў іншую яго кропку. Асноўнаю мэтаю становіцца эмпірычнае пранікненьне інтэрпрэтатара тэкста ў сьвет яго творцы (у ідэале — пераўтварэньне ў апошняга). Задача, такім чынам, заключаецца ў пераадоленьні бар'еру, які адмяжоўвае адну культурную сытуацыю ад другой; у ліквідацыі дыстанцыі паміж імі.

Але яшчэ Х.Г.Гадамэр адмовіўся ад вырашэньня гэтай задачы. У ягонай гермэнэўтыцы менавіта дыстанцыя, што падзяляе «сёньняшняе» й «мінулае», «сваё» й «чужое» падлягае прадумваньню. Пераўтварэньне немагчымае. Ня менш наіўная і сама думка рэканструяваць мінулую эпоху гістарычнымі сродкамі. Гэтая эпоха сыйшла. Яе поўная прысутнасьць неўзнаўляльная. Яна дадзеная толькі ўскосна, праз шчыльны слой апасрэдваньняў. З гэтым прыйдзецца зьмірыцца — і зрабіць адпаведныя высновы.

Асноўнай гістарычнай працэдурай зьяўляецца не перамяшчэньне, а выкарыстаньне. Рэч ня ў тым, каб атаясаміць сябе з аўтарам і тым самым пераадолець аддегласьць паміж ягоным і сваім досьведам, а ў тым, каб, адчуўшы незьнішчальнасьць гэтай аддегласьці, выкарыстаць досьвед аўтара для сябе. Упартае трываньне за працэдуру «перамяшчэньня» вядзе да ўзьнікненьня, прыкладам, дыскусіі пра «беларускасьць» Л.Сапегі ці К.Каліноўскага.

Мэта інтэрпрэтацыі не ва ўзнаўленьні, а ў выпрацоўцы сэнсу. Патрэбная не рэканструкцыя (задумы), а канструяваньне (сэнсу).

Такі паварот натуральным чынам вядзе да прызнаньня плюралістычнасьці інтэрпрэтацыі. Розныя тлумачэньні тэксту ня могуць быць зьведзеныя да аднаго, «слушнага», бо такога не йснуе. Паколькі сэнсавы зьмест тэксту шматкольясны па самой сваёй прыродзе, таму й «двухсэнсоўнасьць» незьнішчальная зь інтэрпрэтацыі.

Усё гэта прыводзіць да дыскрэдытацыі гістарызму, які спавядаюць традыцыйныя школы. Але чалавечае быцьцё застаецца па сутнасьці сваёй гістарычным. Гістарычнасьць ня роўная гістарызму. Зь гістарызмам у гістарычнасьці гэтак жа мала агульнага, як і з нэакантыянскім агістарызмам. Пад гістарычнасьцю не разумеецца ні гістарычная зьменлівасьць, ні гістарычная адноснасьць. Гістарычнасьць, як падмуркове вызначэньне чалавека, заключаецца не ў ягонай уласьцівасьці быць у гісторыі, а ў ягонай уласьцівасьці быць гісторыяй. Гісторыя разумеецца тут не паводле вульгарнага паняцьця аб ёй, гэта значыць не ў якасьці пасьлядоўнасьці момантаў і не ў якасьці ліній, якія вядуць зь «мінулага» праз «сёньняшняе» да «будучага». Чалавечае быцьцё гістарычнае — гэта значыць, што мае пачатак (корань, выток) і канец. Гэта значыць, што яно мае лёс. Усялякая сытуацыя ўнікальная. Яна ня можа быць выведзеная з папярэдняй, ні зьведзеная да наступнай. Яна пэўным чынам умацавана ў культурна-гістарычны прасьцяг і ў той жа час можа выпадаць зь яго, уносячы разлад у некалі ўсталяваную сугучнасьць. Такія сытуацыі і выклікаюць гермэнэўтыку да жыцьця: у часы Сьв.Аўгустына — крах ідэалаў антычнасьці й станаўленьне хрысьціянства, у эпоху Рэфармацыі — адмова ад шанаваньня Паданьня дзеля па-новаму прачытанага Пісаньня, у сёньняшняй Беларусі — станаўленьне беларускай традыцыі пры выцясьненьні чужых формаў дыскурсу.

Гермэнэўтыка ўзьнікае ўсяляк раз у пэрыяды сатрасеньня асноваў, разбурэньня «натуральных» верагоднасьцяў сьвядомасьці, разладу складзеных сувязяў. Падобнае перажываем і мы. Вось чаму не чакае нараджэньне гермэнэўтыкі замест гістарызму.

На гэтым шляху будуць і страты. Кніжкі, насычаныя марксісцкімі цытатамі, сёньня не чытаюць, асабліва тыя дасьледчыкі, якія чакаюць свайго выхаду. Мы ж, маючы досьвед таталітарызму, «умеем» чытаць такія кніжкі й можам яшчэ рабіць адкрыцьці у іх. У адваротным выпадку хоць нейкая пераемнасьць губляецца ўвогуле.

Але вызначаць бліжэйшым часам сытуацыю ў беларускай гісторыяграфіі будзе Н.А.Г. Апазыцыя ёй ня ёсьць структурна аформленаю ў межах пэўнага выданьня ці ўстановы. Часта прадстаўнікі гэтых абодвух кірункаў — калегі ў адным інстытуце. Але ўсіх іх найперш лучаць вельмі сур'ёзныя адносіны да Гісторыі (навукі), пошук жорсткай дэтэрмінацыі ў падзеях, адмова ад успрыйманьня гісторыі (хады падзеяў) як гульні. Пры гэтым ня робіцца падзелу жанраў, дакладней, з аднолькавымі крытэрыямі падыходзіцца да літаратуры вузкаспэцыяльнай, абагульняльнай, папулярнай, дыдактычнай. Для крытыка Н.А.Г. ў такой сытуацыі вырашальным робіцца аргумант: «з нас сьмяюцца». Характэрна, што й пошук «кампрамату» з боку заангажаваных гісторыкаў Літвы вядзецца ў так званых аблегчаных жанрах: Робэртас Гіркантас у злых артыкулах у Atgimimas'е палемізуе з «Кароткімі нарысамі вайсковай гісторыі», «100 пытаньнямі й адказамі па гісторыі Беларусі»... Разгадка сытуацыі, калі апаніруюць менавіта падобным выданьням, у тым, што «супрацьлеглы» бок стварае прыблізна такую ж прадукцыю.

Завышаныя патрабаваньні да гісторыяграфіі ёсьць прыкметаю нясьпеласьці грамадзтва (зусім не людзей). Пэрсаніфікуючы праблему (файна, што прозьвішчы пішуцца зь вялікае літары), можна сьцьвярджаць — пакуль гэта так, будуць адбывацца спрэчкі Генадзя Сагановіча з Іванам Саверчанкам.




24—26 верасьня ў Менску адбудзецца Другі Балтыцкі дударскі фэст. Ён уключае ў сябе паказальныя выступы дудароў, скокі, сьпевы й гульні пад дуду, навукова-практычны сэмінар. Арганізатары фэсту на Беларусі: Цэнтар этнакасмалёгіі «Крыўя», арганізацыя «Медзяныя ваўкі» і генэральны фундатар — навукова-вытворчая фірма «Vaikałaka». Папярэднюю згоду на ўдзел у фэсьце далі дудары зь 10 краінаў Паўночнай ды Сярэдняй Эўропы — Беларусі, Галяндыі, Латвіі, Літвы, Нямеччыны, Славакіі, Францыі, Шатляндыі, Швэцыі, Эстоніі... 26 верасьня дудары зладзяць канцэрт з танцамі, сьпевамі й гульнямі ў Палацы Прафсаюзаў (м. Кастрычніцкая). Пачатак а 15.30. Магчымы працяг на вольным паветы.

# ДЗЕВЯЦЬ ДАНТАЎСКІХ ЭСЭ

**Хорхэ Луіс Борхэс**

## *Пралёг*

Уявім сабе ў нейкай усходняй бібліятэцы шмат стагодзьдзяў таму назад гравюру. Магчыма, яна арабская, і нам кажуць, што на ёй выяўленыя ўсе казкі *Тысячы й адной ночы*; магчыма, яна кітайская, і мы ведаем, што яна паказвае аповесьць з сотнямі й тысячамі пэрсанажаў. У безьлічы яе формаў некаторыя — дрэва, падобнае на перакулены конус, пунсова-чырвоныя мячэці за жалезным мурам — прыцягваюць нашую ўвагу, і ад іх мы пераходзім да іншых. Дзень хіліцца да вечару, сьвятло чэзьне, чым болей мы паглыбляемся ў гравюру, тым болей разумеем, што няма на зямлі такой рэчы, якой бы тут не было. Што было, што ёсьць і што будзе, гісторыя мінуўшчыны й будучыні, рэчы, што я меў і што я буду мець, усё гэта чакае нас у нейкім месцы гэтага маўклівага лябірынту... Я стварыў ва ўяўленьні чарадзейны твор, гравюру, якая была б мікракосмам; паэма Дантэ й ёсьць такою ўсеабдымнай гравюрай. Аднак, я думаю, што калі б мы змаглі прачытаць яе ў нявінным няведаньні (аднак гэткае шчасьце нам ня дадзена), усеабдымнасьць не была б першым, што б мы ў ёй знайшлі, ня кажучы ўжо пра велічнасьць і ўзьнёсласьць. Значна раней, думаю, мы заўважылі б іншыя асаблівасьці, менш грандыёзныя й значна больш прывабныя; перш за ўсё, напэўна, тую, якую падкрасьляюць ангельскія дантазнаўцы: разнастайную й шчодрую вынаходлівасьць у дакладных рысах. Дантэ мала сказаць, што чалавек, абняўшыся зь зьмяёю, ператвараецца ў зьмяю, а зьмяя ў чалавека; ён параўноўвае гэтую ўзаемную мэтамарфозу з агнём, які паглынае паперу, калі на ёй спачатку зьяўляецца бурая паласа, у якой памірае бель паперы, але якая яшчэ ня сталася чорнаю (*Пекла*, XXV, 64). Яму мала сказаць, што ў цемры сёмага кола грэшнікі жмураць вочы, каб яго пабачыць; ён параўноўвае іх зь людзьмі, што разглядаюцца пад няясным месячным сьвятлом або з старым краўцом, які ўстаўляе нітку ў голку (*Пекла*, XV, 19). Яму мала сказаць, што на дне сусьвету вада ператварылася ў лёд; ён дадае, што яна здаецца шклом, а не вадою (*Пекла*, XXXII, 24)... Пра такія параўнаньні думаў Маколі, калі, спрачаючыся з Кэры, зазначыў, што «марная велічнасьць» і «цудоўныя прыблізнасьці» Мілтана хвалююць яго менш за Дантавы дробязі. Пазьней Раскін (*Сучасныя мастакі*, IV, XIV) зганіў Мілтанаў туман і пахваліў дакладную тапаграфію, зь якою Дантэ збудаваў свой пякельны плян. Усім ведама, што паэты ўжываюць гіпэрбалы: для Пэтраркі або для Гонгары любы жаночы валасок — гэта золата, а любая вада — гэта крышталь; гэты мэханічны й грубы альфабэт сымбаляў разбурае дакладнасьць словаў, ён здаецца заснаваным на абыякавасьці недасканалага назіраньня. Дантэ не дазваляе сабе гэткай памылкі; у ягонай кнізе няма ніводнага неапраўданага слова.

Дакладнасьць, якую я толькі што адзначыў, — гэта не рытарычнае ўмельства; гэта сьведчаньне сумленнасьці, цэльнасьці, зь якою быў уяўлены кожны эпізод паэмы. Тое самае можна сьцьвярджаць аб рысах псыхалягічнага характару, такіх надзвычайных і адначасна такіх сьціплых. З такіх рысаў, якімі шчодра аздоблена паэма, я працытую некалькі. Душы, якім наканавана пекла, плачуць і клянуць Бога; пры ўваходзе ў Харонаў човен іх страх замяняецца ў нецярплівасьць і невыносную тугу (*Пекла*, III, 124). З вуснаў Вэргілія Дантэ чуе, што той ніколі ня трапіць у нябёсы; аднак жа адразу пасьля гэтага ён называе яго настаўнікам і спадаром, ці то каб паказаць, што прызнаньне Вэргілія не аслабляе Дантавых пачуцьцяў да яго, ці то таму, што ведаючы, што той загублены, ён яшчэ больш яго любіць (*Пекла*, IV, 39). У чорнай буры другога кола Дантэ хоча даведацца пра карані каханьня Паўла й Франчэскі; апошняя апавядае, што яны абое кахалі адно аднаго й ня ведалі пра гэта, *soli eravamo e sanza alcun sospetto*, і што іхнае каханьне адкрылася ім выпадкова падчас чытаньня кнігі. Вэргілій спрачаецца з ганарліўцамі, якія маняцца адным сваім розумам ахапіць боскую бесканечнасьць; раптам ён схіляе галаву й змаўкае, бо адзін з гэтых няшчасных — ён сам (*Чысьцец*, III, 34) Пры змрочным схіле Чыстца цень мантуйца Сардэла пытаецца ў ценю Вэргілія, дзе ягоны край; Мантуя, адказвае Вэргілій; тады Сардэл перапыняе яго й абдымае (*Чысьцец*, VI, 58). Раман нашага часу перадае зь нязноснай шматслоўнасьцю працэсы думкі; Дантэ пакідае нам здагадвацца пра іх праз нейкі намер або жэст.

Поль Клёдэль зазначыў, што відовішчы, якія чакаюць нас пасьля сьмяротнае агоніі, магчыма, ня будуць дзевяцьцю пякельнымі коламі, тэрасамі Чыстца або канцэнтрычнымі нябёсамі. Дантэ, бясспрэчна, мог бы зь ім пагадзіцца; ён стварыў тапаграфію сьмерці як мэханізм, падпарадкоўваючыся патрабаваньням схалястыкі й формы паэмы.

Пталямэева астраномія й хрысьціянская тэалёгія апісваюць Дантаў сусьвет. Зямля — гэта нерухомая сфэра; у цэнтры паўночнага паўшар'я (таго, дзе дазволена жыць людзям) стаіць гара Сыён; за дзевяноста градусаў ад гары, на ўсходзе, памірае рака Ганг; за дзевяноста градусаў ад гары, на захадзе, нараджаецца рака Эбр. Паўдзённае паўшар'е складаецца з вады, а не зь зямлі, і забаронена для людзей; у яго цэнтры стаіць гара, антыпод Сыёну, гара Чыстца. Абедзьве ракі й абедзьве гары, роўнааддеглыя, упісваюць у сфэру крыж. Пад гарою Сыён, але значна шырэйшы за яе, адкрываецца ў бок цэнтру зямлі перакулены конус, Пекла, падзелены на колы, падобныя на прыступкі ў амфітэатры. Колаў гэтых дзевяць, іх тапаграфія згубная й няшчадная; пяць першых складаюць Верхняе Пекла, чатыры апошнія — Ніжняе Пекла, гэта горад з чырвонымі мячэцямі, абнесены жалезным мурам. Унутры там магілы, калодзежы, прорвы, балоты й зыблівыя пяскі; у вастрыі конуса сядзіць Люцыфэр, «чарвяк, які точыць зямлю». Расколіна, прабітая ў скале водамі Леты злучае дно Пекла з падножжам Чыстца. Гэтая гара — востраў; на яе схілах уздымаюцца адна за адной тэрасы, якія адпавядаюць сьмяротным грахам; на вяршыні квітнее Эдэмскі сад. Вакол Зямлі круцяцца дзевяць канцэнтрычных сфэраў; сем першых — плянэтарныя нябёсы (нябёсы Месяца, Мэркурыя, Вэнэры, Сонца, Марса, Юпітэра, Сатурна); восьмае — неба нерухомых зорак; дзявятае — крышталёвае неба, называнае таксама Першы Рухавік. Вакол яго распасьціраецца эмпірэй, дзе раскрываецца Ружа Праведных, бязьмерна вялікая, у цэнтры якой — Бог. Як можна здагадацца, хораў у Ружы таксама дзевяць... Такая ў асноўных рысах агульная канфігурацыя Дантавага сусьвету, падпарадкаванага, як заўважыць чытач, чарам адзінкі, тройкі й кола. Дэміург, або Творца ў *Тымэі*, кнізе, якую згадвае Дантэ (*Бяседа*, III, 5; *Рай*, IV, 49), лічыў, што найдасканалейшы рух — кручэньне, а найдасканалейшая форма — сфэра; гэтая догма, якую Плятонаў Дэміург падзяляў з Ксэнафанам і Пармэнідам, дыктуе геаграфію трох пройдзеных Дантам сьветаў.

Дзевяць абарачальных нябёсаў і складзенае з вады паўдзённае паўшар'е з гарою пасярэдзіне відавочна адпавядаюць састарэлай касмалёгіі; некаторыя мяркуюць, што гэты эпітэт можна стасаваць таксама й да звышнатуральнае пабудовы паэмы. Дзевяць колаў Пекла (разважаюць яны) ня менш аджылыя й непатрэбныя, чым дзевяць Пталямэевых нябёсаў, а Чысьцец гэткі ж нерэальны, як і гара, на якой разьмяшчае яго Дантэ. Гэтай заўвазе можна запярэчыць рознымі меркаваньнямі: першае палягае ў тым, што Дантэ ня ставіў перад сабою мэты абгрунтаваць праўдзівую або праўдападобную тапаграфію таго сьвету. Пра гэта ён выказаўся й сам; у славутым лісьце да Кангранды, напісаным па-лацінску, ён паведаміў, што сюжэт ягонае *Камэдыі* ўяўляе сабою літаральна стан душы пасьля сьмерці, а алегарычна — чалавека, які паводле сваіх заслугаў або праступкаў прымае боскія кары й нагароды. Якопо ды Дантэ, паэтаў сын, выклаў такую ідэю. У пралёгу ягонага камэнтара мы чытаем, што *Камэдыя* імкнецца паказаць у алегарычных формах тры лады існаваньня чалавецтва і што ў першай частцы аўтар разглядае заганы, называючы іх Пеклам; у другой — пераход ад заганаў да дабрачыннасьцяў, называючы яго Чыстцом; у трэцяй — стан дасканалых людзей, называючы яго Раем, «каб паказаць веліч іх дабрачыннасьцяў і іх шчаснасьць, неабходныя чалавеку, каб ён здолеў успрыняць найвышэйшае дабро». Так разумелі паэму й іншыя даўнейшыя камэнтатары, прыкладам, Якопо дэля Ляна, які тлумачыць: «Намерваючыся паказаць, што чалавечае жыцьцё можа быць трох сутнасьцяў, якімі ёсьць жыцьцё грэшнікаў, жыцьцё раскаяных і жыцьцё праведных, паэт падзяліў сваю кнігу на тры часткі, якімі ёсьць Пекла, Чысьцец і Рай».

Іншае пераканаўчае сьведчаньне выказаў Франчэско да Буці, які камэнтаваў *Камэдыю* ў канцы XIV стагодзьдзя. Ён паўтарае словы славутага ліста: «Сюжэт гэтае паэмы ўяўляе сабою літаральна стан душаў, ужо аддзеленых ад целаў, а маральна — узнагароды й кары, што выпадаюць чалавеку за ягоныя свавольствы».

Гюго ў *Ce que dit la bouche d'ombre*, піша, што прывід, які ў Пекле прымае постаць Авэля ў вачох Каіна, — той самы, у кім Нэрон распазнае Агрыпіну.

Значна больш цяжкім за абвінавачаньне ў састарэласьці было абвінавачаньне ў жорсткасьці. Ніцшэ ў *Сутоньні Ідалаў* (1888) адчаканіў гэтае меркаваньне ў дзёрзкай эпіграме, дзе Дантэ называецца «гіенай, якая складае вершы на магілах». Акрэсьленьне гэтае выглядае больш напышлівым, чым трапным; сваёй славаю, сваёй непамернай вядомасьцю яно абавязанае той акалічнасьці, што яно фармулюе з адчаем і лютасьцю агульнае меркаваньне. Спраўдзіць слушнасьць гэтага меркаваньня — найлепшы спосаб абвергнуць яго.

Іншая прычына, тэхнічнага характару, тлумачыць суворасьць і жорсткасьць, у якіх быў абвінавачаны Дантэ. Пантэістычнае ўяўленьне пра Бога, які ёсьць сусьветам, Бога, які ёсьць кожным з сваіх стварэньняў і лёсам гэтых стварэньняў, магчыма, было б ерасьсю й памылкай, калі б мы стасавалі яго да рэальнасьці, аднак яно неаспрэчнае ў дачыненьні да паэта й ягонага твору. Паэт ёсьць кожным зь людзей ягонага выдуманага сусьвету, ён — кожнае імгненьне й кожная дробязь. Адна зь ягоных задачаў, і ня самая простая, — хаваць і ўтойваць гэтую ўсюдыіснасьць. Праблема гэтая была асабліва цяжкая ў выпадку Дантэ, вымушанага дзеля асаблівасьцяў свае паэмы асуджаць на славу або на страту так, каб чытачы не здагадаліся, што Судом, які абвяшчаў вэрдыкты, быў у рэшце рэшт ён сам. Каб дасягнуць гэтае мэты, ён уключыў сам сябе пэрсанажам у *Камэдыю*, і ўладзіў так, што ягоныя рэакцыі не супадалі, або супадалі вельмі рэдка — як у выпадку з Філіпам Арджэнці або Юдам — з боскімі пастановамі.

Пераклаў з гішпанскай SS.

# ЧОРНЫ КОТ

**Эдгар По**




*Пераклаў з ангельскае Юрась Бушлякоў. Крыніца: Edgar Allan Poe. Tales of Mystery and Imagination. London, Grant Richards.*

Я не дамагаюся, каб нехта паверыў найдзічэйшай і разам з тым найзвычайнейшай гісторыі, якую важуся апісаць; я й не спадзяюся на гэта. Трэ быць вар'ятам, каб мець нейкую надзею ў сытуацыі, калі я сам не прымаю сваіх доказаў. Адылі я не вар'ят, і ўсё гэта, відавочна, — ня сон. Але заўтра я памру, а сёньня я павінен скінуць цяжар з душы. Мой адзіны намер — шчыра, сьцісла й без камэнтару апавесьці людзём пра сякія-такія чыста сямейныя здарэньні. Гэтыя здарэньні спарадзілі ўва мне жах, змучылі, выгубілі мяне. І ўсё ж я ня буду спрабаваць высьвятліць іх. Мне яны прынесьлі-такі страху — многія ж уявяць іх хутчэй вычварнымі, чымся жахлівымі. Пасьля, магчыма, знойдзецца нейкі розум, больш спакойны, больш лягічны й нашмат менш узбудлівы за мой, нейкі розум, што ў акалічнасьцях, аб якіх я апавядаю з пашаноўным страхам, ня ўгледзіць нічога, апрача звычайнае пасьлядоўнасьці цалкам натуральных прычынаў і вынікаў.

Зь дзяцінства я выдзяляўся сваёй паслухмянасьцяй і лагоднасьцяй. Прыкметная шчырасьць мае душы выклікала нават кпіны таварышаў. Я вельмі любіў зьвяранятаў, і бацькі не перашкаджалі мне: удома было шмат маіх улюбёнцаў. Зь імі я бавіў свой вольны час і быў надзвычай шчасьлівы, кормячы й даглядаючы іх. Я сталеў, і расла гэтая асаблівасьць характару; для мяне, ужо дарослага, памянёны занятак быў ці не найлепшай уцехаю. Тым, хто зьведаў прыхільнасьць да вернага й разумнага сабакі, ня варта тлумачыць, колькі асалоды нясе ягоная ўдзячнасьць за гэта. У бескарысьлівай і самаахвярнай любові зьвера ёсьць нешта, здольнае апанаваць сэрца кожнага, хто пераконваўся ў нікчэмным сяброўстве ды падманлівай адданасьці звычайнага Чалавека.

Я рана ажаніўся й пачуваўся шчасьлівы, бо жонка мела блізкі мне па духу характар. Заўважаючы маю сымпатыю да жывёлін, яна скарыстоўвала якую любя магчымасьць пацешыць мяне. У нас жылі птушкі, залатыя рыбкі, заводны сабака, трусы, маленькая малпа й кот.

Кот быў надзвычай вялікі й прыгожы, чыста чорны ды надзіва верны. Гаворачы пра ягоную цямкасьць, мая жонка, поўная ў душы прымхаў, часта намякала на старасьвецкае народнае паданьне, у якім усе чорныя каты лічыліся пярэваратнямі. Але ніколі яна не намякала паважна — і я падаю гэтую драбніцу адно таму, што якраз цяпер належыць яе прыпомніць.

Плютон — гэтак звалі ката — быў маім улюбёнцам, і я часьцяком гуляў зь ім.

# БОСКАЯ КАМЭДЫЯ

**Дантэ Аліг'еры**



## *Песьня першая*

Калі прайшоў я паўжыцьця зямнога,
дык апынуўся ў змрочных гушчарах,
бо простая згубілася дарога.

Так цяжка апісаць, ах, каб ён спрах,
той дзікі лес, суворы і мярцьвячы,
які дасюль у думках будзіць страх!

Ён горкі, быццам сьмерць сама няйначай,
але ж у ім такі я скарб здабыў,
што раскажу пра ўсё, што там пабачыў.

Ня помню, як туды ўвайшоў, бо быў
ачмураны я снамі ў падарожжы
і ўжо даўно праўдзівы шлях згубіў.

Аднак, калі да горнага падножжа,
што замыкала лес, глухі бы скон,
які чарнеў з усіх бакоў варожа, —

я выйшаў і зірнуў на стромы схон
ужо заліты промнямі сьвяціла,
што ўсіх вядзе да ісьціны спакон,

тады на дне душы адчуў я сілы,
якія ўтаймавалі той спалох,
што ўночы ледзяніў мне кроў у жылах.

І быццам той, хто, падаючы з ног,
на бераг выйшаў і назад у мора
бурлівае глядзіць, дзе згінуць мог,

так беглы дух мой азірнуўся ў зморы
на шлях у згубным лесе, чый абдым,
нікога зь сьмертных не пускае ўгору.

Пасьля пярэдыху на горны ўздым
наўпрост я рушыў так, што з кожным крокам
вышэй я трохі быў, чым перад тым.

Ды адышоў ад лесу недалёка,
бо спрытная пантэра папярок
дарогі стала, вымкнуўшы са змроку.

І, за наскокам робячы наскок,
мяне змушала збочваць і памалу
цясьніла долу ў непраглядны змрок.

Быў час сьвітаньня й сонца выплывала
паміж тых самых зор, чый карагод
у дзень сьветастварэньня запускала

зь ім разам боская любоў у лёт.
Так што страшыцца не было нагоды
плямістаскурай рысі, ды прыход

раптоўны льва, яго пагляд галодны
наноў мяне ўсяго жудой скаваў,
калі хацеў я ўжо ўздыхнуць свабодна.

Такі пагрозны наступ быў ільва
і выгляд, што здавалася, трапеча
наўкол у спудзе лісьце і трава.

І зь ім ваўчыца йшла, чыя худнеча,
здавалася, насіла ў сабе плод
усіх пажаднасьцяў; яна ў галечы

прымусіла жыць не адзін народ.
І я, калі ашчэр яе пабачыў,
ураз згубіў надзею на ўзыход.

Як скнара той, што ў час ліхі змантачыў
усё, што доўгія гады зьбіраў,
над страчаным дабром смуткуе й плача,

гэтак і я няўцешна гараваў,
калі зьвяруга пхнуў мяне ў лагчыну,
куды прамень сьвятла не дасягаў.

Тым часам, як ваўчыца без спачынку
мяне цясьніла, той, хто праз гады
маўчаць быў змушаны, паўстаў перад вачыма.

«Ратуй мяне ад гэтай ліхаты, —
яму я крыкнуў, — хто б ні быў сабою,
ці прывідам, ці чалавекам, ты!»

«Не чалавек я, быў ім, — ён з журбою
сказаў, — меў у Лямбардыі бацькоў,
што з Мантуі паходзілі абое.

Пры Юлію ў канцы яго гадоў
народжаны, я бачыў Рым за слынным
і добрым Аўгустам ў час зманлівых багоў.

Паэтам быў я і сьпяваў пра сына
Анкізава, які прыйшоў здалёк,
ад Ілёна, што ў агні загінуў.

А ты, нашто ты павярнуў у змрок?
Чаму ня ўсходзіш на гару, якая
усякай нашай радасьці выток?»

«Дык ты Вэргілі, ты крыніца тая, —
сказаў нясьмела я, — што зь берагоў
выходзіць, калі слова прамаўляе?

О, гонар і сьвятло ўсіх сьпевакоў,
шукаць твой том было нялёгкай справай,
ды змушвала вялікая любоў.

Ты мой настаўнік, прыклад мне яскравы:
адзіны ты, ў каго я ўзяў за ўзор
прыгожы стыль, які прынёс мне славу.

Глядзі, як люты зьвер мяне прыпёр
так, што ўздыхнуць ад спуду я няздольны,
прашу, настаўнік, дай яму супор!»

Ён, бачачы, як жудасна мне й больна,
сказаў: «Абраць шлях іншы мусіш ты,
калі пакінуць хочаш край нядольны;

бо гэта здань, што столькі страхаты
нагнала на цябе, не саступае
нікому і ламае ўсім хрыбты.

Натура ж у яе такая злая,
што не насыціцца яна ніяк
і па ядзеньні больш голад мае.

Зь ёй спараваўся не адзін хіжак,
і будзе яшчэ больш іх, покуль самцы
ня стрэнецца, на гібель ёй, ганчак.

Ня срэбрам і зямлёю сілкавацца
Хорт будзе, а зь любові й добрых спраў,
і род яго між лямцам будзе й лямцам.

Затуліць ён ад зла, як цьвёрды сплаў
Італію, якой жыцьцё Каміла,
і Эўрыял, і Турн, і Ніс аддаў.

Ваўчыцу ж Хорт загоніць жывасілам
у пекла, аж да самага нутра,
дзе зайздрасьць яе чорная ўскарміла.

Таму табе, дзеля твайго ж дабра,
каб вечныя мясьціны без затрымкі
прайшоў ты, буду за павадыра.

Там ты пачуеш роспачныя крыкі
зьвячэлых духаў, што ў Тварца сабе
другую просяць сьмерць у муках дзікіх.

І ўбачыш тых, хто і ў агні жальбе
не паддаецца, бо на шчасны бераг
на лодцы мар з надзеяю грабе.

З табой жа ў тыя радасныя сфэры
узьнімецца больш годная душа,
а мне туды зачыненыя дзьверы:

Ня ўпусьціць Уладар у свой абшар
са мной нікога, бо яго законы
я ў паняверцы колісь парушаў.

Паўсюль Ён правіць, але там ягоны
адвечны горад і сьвяты пасад:
туды абраным быць — вялікі гонар!».

А я яму: «Ў імя Таго, чый лад
ты не прыняў, прашу, Паэт, цябе я,
каб не зазнаць мне горшы заняпад,

вядзі мяне ў цямрэчу, дзе гібее
гурма няшчасных, змучаных ад бед,
і там, дзе брама Пётрава бялее».

І рушыў ён, і я за ім усьлед.

Пераклад Алега Мінкіна.
Падрадкоўны пераклад зь італійскае
Сяргея Шупы.

---

Я сам карміў яго, і ён спадарожыў мне па ўсім доме, куды б я ні йшоў. Мне нат было цяжка забараніць яму хадзіць за мною па вуліцах.

Нашае таварышаваньне доўжылася гэткім парадкам некалькі гадоў, і за гэты час мая натура й характар — пад уплывам Д'ябальскае Цягі да Алькаголю — перацярпелі (чырванею, прызнаючыся ў гэтым) радыкальную зьмену на горшае. Што ні дзень я рабіўся больш пануры, больш раздражлівы й менш уважны да пачуцьцяў іншых людзей. Я стаўся нястрыманы ва ўзаемінах з жонкаю. Урэшце я нават зьняважыў яе сваёй жорсткасьцяй. Мае гадаванцы, ясная рэч, таксама адчулі гэтую зьмену ў характары гаспадара. Я ня толькі не зважаў на іх, але й блага абыходзіўся зь імі. Адылі да Плютона я яшчэ захаваў належную пашану й стрымліваў сябе ад кепскага абыходжаньня зь ім, чаго нельга сказаць пра трусоў, малпачку ці нават сабаку, якіх я без усялякага сораму крыўдзіў, калі яны лашчыліся да мяне або выпадкова траплялі пад руку. Але хвароба завалодала мною — што можа быць горш за Цягу да Алькаголю! — і нарэшце нават Плютон, які цяпер пастарэў і праз гэта стаўся капрызьнейшы, — нават Плютон пачаў спазнаваць сілу мае хворае натуры.

Аднае ночы, калі я вярнуўся на добрым падпітку з улюбёнае піўніцы, уроілася мне ў галаву, быццам кот пазьбягае мяне. Я схапіў яго; у пярэпалаху ад мае жорсткасьці ён слаба, але ўсё-ткі да крыві ўкусіў мне руку. Лютасьць дэмана зараз жа агарнула мяне. Я больш не кантраляваў сябе. Здавалася, мая душа ў адзін момант пакінула цела; і распаленая джынам злосьць, большая за д'ябальскую, цалкам апанавала мяне. Я выхапіў з кішэні камізэлькі складанчык, расчыніў яго, сьціснуў беднаму зьверу горла й бязь сьпеху выразаў адно ягонае вока! Я чырванею, я палаю, я дрыжу, апісваючы гэткую жудасную акрутнасьць.

Калі нараніцы розум вярнуўся да мяне — калі я праспаўся пасьля ночнае папойкі, — ліхадзейства, учыненае мною, выклікала ў мяне адначасова каяньне й страх; але гэта было ў лепшым выпадку слабое й двухсэнсоўнае пачуцьцё, якое не асягнула мае душы. Я зноўку забыўся на меру й неўзабаве патапіў у віне ўсю памяць пра ўчынак.

Тым часам кот пакрысе ачуняў. Праўда, пустая вакавіца мела страшэнны выгляд, але боль, відаць, сьцішыўся. Кот па-ранейшаму пахаджаў па доме, аднак, чаго й можна было чакаць, уцякаў у надзвычайным страху пры маім набліжэньні. Гэта абудзіла маё сэрца, і я сьпярша вельмі засмуціўся ад відавочнае непрыязнасьці істоты, якая колісь гэтак любіла мяне. Але хутка гэтае пачуцьцё зьмянілася на раздражненьне. І тады, нібыта дзеля майго канчальнага й незваротнага зрынeньня, ачнуўся ва мне дух Супярэчнасьці. Філязофія не бярэ яго пад увагу. Але я глыбака ўпэўнены, што супярэчнасьць належыць да найпрасьцейшых элемэнтаў падахвочваньня ў чалавечым сэрцы — да непадзельных першатворных здольнасьцяў ці пачуцьцяў, якія вызначаюць прыроду Чалавека. Хто сотню разоў не адчуваў, што зьдзяйсьняе подлы й дурны ўчынак з тае толькі прычыны, што гэтага нельга рабіць? Ці ж мы, насуперак нашай разважлівасьці, не зазнаем вечнае спакусы парушыць

*Працяг на старонцы 14.*

# У ГЛЫБОКІМ ТЫЛЕ ПАТЭНЦЫЯЛЬНАГА

Зьміцер Бартосік

Здаецца, ня так даўно мы з вамі жылі ў Расеі, дакладней, пад Расеяй. Пры гэтым бальшыня насельніцтва не задавала сабе пытаньня — у якой краіне жыве. Расею, такую, якой яе ведалі, беларусы не любілі. Але ці бывае яна іншаю? Якая розьніца паміж той, ад якой нам трэба было б пазбавіцца, і той, што адступіўшы ў межы РСФСР, сьвяткуе з тае нагоды свой Дзень незалежнасьці? Незалежнасьці ад каго? Ад драпежных калёній? Ці, можа, ад прыдуманага самой сабе мэсіянства? Сёньня, калі мы зноў знайшлі сябе ў цэнтры Эўропы, я еду на новыя «ўскраіны» нашае цяперашняе часткі сьвету, у глыбокі тыл патэнцыяльнага суседа. Я еду на радзіму маіх продкаў, у Ніжні Ноўгарад.

Калі вы сабраліся ў Ніжні ўпершыню, ніколі ня едзьце цягніком. Вы туды ўсё адно не патрапіце. Вас зусім не гасьцінна сустрэне Маскоўскі вакзал горада Горкага з усімі вабнотамі вялікіх вакзалаў. Як толькі вы пасьпешліва пакінеце ягоны недарэчны гмах, вам адразу ж закарціць вярнуцца дадому. Тое, што ўбачыць тут ваша зьбянтэжанае вока, апісаць цяжка. Калі вы заставалі зруйнаваныя вайною гарады, краявід павінен падацца вам знаёмым. Але грамадзянскай вайною, якой нас усё часьцей палохаюць, тут пакуль што ня пахне. Гэта пад націскам мэтро гіне стары кірмашовы раён Канавіна.

У Ніжні толькі адзін шлях. Як у песьні — «Вниз по Волге-реке». У гэтым разе вам можна шчыра пазайздросьціць. Калі вы чалавек уражлівы й здольны бачыць прыгажосьць, я не бяру адказнасьці за вашае сэрца. Мне ж, бяздарнаму пісаку, ня хопіць словаў, каб перадаць усю ўрачыстасьць моманту, ракі й гораду, «царственно поставленного над всем востоком России», як сказаў мастак Рэпін.

Я зноў іду па ім, блытаючыся ў часох і ўспамінах.

Як і ўсе волжскія гарады, нават у параўнаньні зь іншымі гарадамі Расеі, Ніжні — брудны. Гэты бруд стаў неаднымльнай часткаю вуліц. Ён ляжыць тут не адзін год і зусім не на сумленьні савецкай улады. Безь яго расейцу было б так жа няўтуль-



# ЧОРНЫ КОТ

*Працяг са старонкі 13.*

Закон выключна дзеля таго, што гэта забаронена? Вось жа, згаданы дух супярэчнасьці й прывёў да майго канчальнага згіненьня. Гэтае невытлумачальнае памкненьне душы мардаваць сябе — гвалціць собскую натуру, рабіць благое дзеля благога — яно й падахвоціла мяне працягваць і ўрэшце давесьці да канца зьдзек зь невінаватае жывёліны. Аднаго ранку я разважліва накінуў на котаву шыю пятлю й павесіў яго на суку, — павесіў са сьлязьмі ўвачччу ды з найгарчэйшым шкадаваньнем у сэрцы, — павесіў, бо ведаў, што ён любіў мяне й ня даў мне ніякае падставы для крыўды, — павесіў, бо разумеў, што, зьдзяйсьняючы гэта, я ўчыняю грэх — сьмяротны грэх, які падводзіць маю неўміручую душу пад небясьпеку стацца — каб гэта было магчыма — непрыступнай нават для бязьмежнае ласкі Найміласэрнейшага й Найжахлівейшага Госпада.

У ноч пасьля гэтага найстрашнейшага злачынства мяне пабудзіў шум агню. Полымя ахапіла фіранкі пры маім ложку. Усё ў доме палала. Мая жонка, слуга ды я сам ледзьве вырваліся з пажару. Усё чыста было зьнішчанае. Агонь цалкам паглынуў маёмасьць, і я адгэнуль прымірыўся зь бязвыйснасьцяй.

Я перасільваю ймкненьне ўстанавіць прычыну й вынік, адшукаць залежнасьць няшчасьця ад мае жорсткасьці. Тут адно падрабязны ланцуг падзеяў — рупіць узяць пад увагу кожнае, хоць бы й нязвыклае зьвяно. Назаўтра пасьля пажару я пабываў на пагарэлішчы. Сьцены, апрача аднае, зваліліся. Ацалела толькі даволі ценькая пярэгарадка пасярэдзіне дому, каля якое знаходзілася ўзгалоўе майго ложка. Тынк тут збольшага не паддаўся агню — гэта, на маё разуменьне, было зьвязана зь нядаўным тынкаваньнем сьцяны. Каля яе шчыльнай грамадою сабраліся людзі, якія зь пільнай увагаю разглядалі нейкае месца. Словы «дзіўна!», «надзвычайна!» ды гэткага кшталту іншыя выгукі ўзбудзілі маю цікаўнасьць. Я падблізіўся й пабачыў на белай паверхні штосьці падобнае да барэльефу, які ўяўляў сабою гіганцкага ката. Дакладнасьць выявы здавалася папраўдзе незразумелаю. На котавай шыі была вяроўка.

Сьпярша гэты прывід — ужо ж не магу выменаваць яго йначай — нагнаў на мяне подзіву й страху. Але нарэшце роздум дапамог мне. Я прыгадаў, што павесіў ката блізка дому. Падчас пярэпалаху, выкліканага пажарам, людзі на вокамгненьні запоўнілі сад — хтосьці зрэзаў ката з дрэва й кінуў яго праз расчыненае вакно ў маю спачывальню. Пэўне, зрабіў гэтак, каб пабудзіць мяне. Абрынуўшыся, сьцены прыціснулі ахвяру мае бязьлітасьці да сьвежага тынку, вапна якога з дапамогаю полымя й газавых выпараў трупа дарабіла канчальна выяву, бачаную мною.

Хаця я гэтак лёгка заспакоіў свой розум, калі ўжо ня цалкам сваё сумленьне, вытлумачыўшы толькі што апісанае зьявішча, яно, тым ня менш, дужа моцна скаланула мяне. Цягам месяцаў я ня мог пазбавіцца прывіду ката; і тым часам вярнулася ў маю душу цьмянае пачуцьцё, якое здавалася, але толькі здавалася каятаю. Я пачаў нават шкадаваць аб страце й шукаў у старых піўніцах, дзе лічыўся заўсёднікам, другога ката гэткага ж заводу ды падобнага выгляду, які б замяніў майго забітага ўлюбёнца.

Аднае ночы, калі я сядзеў крыху ачмурэлы ў нейкім найбрыдчэйшым прытоне, маю ўвагу прыцягнула нешта чорнае на вечку аднае зь вялізных бочак джыну або рому, што складалі ці ня ўвесь абсталюнак пакоя. Колькі хвілінаў я ня зводзіў вачэй з бочкавага вечка, ня цямячы, чаму дагэнуль нічога не заўважаў на ім. Я падыйшоў і дакрануўся да чорнага прадмету рукою. Гэта быў чорны кот, вельмі вялікі, як Плютон, падобны да яго, бытта кроплі зьняў, з адным усяго адрозьненьнем. Плютон зусім ня меў белае поўсьці, на грудзёх жа гэтага ката была віднаць расплывістая белая пляма.

Па маім дотыку ён адным скокам падняўся, голасна муркнуў, пацёрся аб маю руку й цешыўся ўвагаю да сябе. Вось жа якраз гэткага ката я шукаў. Я адразу захацеў купіць яго; але гаспадар прытону не патрабаваў грошай — ён нічога ня ведаў пра ката, — ніколі раней ня бачыў яго.

Я працягваў лашчыць ката, і, калі наважыўся йсьці дадому, ён выявіў намер спадарожыць мне. Я дазволіў яму гэта, зрэдчас па дарозе спыняючыся й паляскваючы яго. Удома кот зараз жа асвойтаўся і ў адзін момант стаўся ўлюбёнцам мае жонкі.

Але ж я па малой гадзіне адчуў да яго непрыязнасьць, якая нарастала ўва мне. Гэта была зьмена на горшае, якой я не чакаў, аднак ня ведаю, як і чаму тое адбылося, — ягоная відавочная любоў выклікала хутчэй агіду й дадзявала мне.

Спакваля гэткае адчуваньне перарасло ў лютую нянавісьць. Я ўнікаў ката; адно невыразнае пачуцьцё сораму й згадкі пра ранейшую маю бессардэчнасьць перасьцерагалі мяне ад благога абыходжаньня зь ім. За некалькі тыдняў я ніводнага разу ня выцяў яго дый увогуле не зачапіў; але пакрысе — патрошку — я пачаў глядзець на ката зь невымоўнай абрыдаю й моўчкі ўцякаў ад гідкае істоты, нібы ад пошасьці.

Тое, што кот гэтаксама, як і Плютон, быў пазбаўлены аднаго вока, што зараз жа нараніцы выявілася, паддала мне, ведама, нянавісьці да жывёліны. Адылі ў маёй жонкі гэтае падабенства толькі спарадзіла любасьць да ката, яна ж бо, як ужо казаў, добра-такі захавала гэткую людзкасьць, якая калісь выступала маёй адметнай рысаю й крыніцаю чысьленых найпрасьцейшых і найбеззаганьнейшых забаваў.

Здавалася, што аднначасна з узрастаньнем мае антыпатыі да ката, большала ягоная да мяне прыхільнасьць. Ён хадзіў за мною з упартасьцяй, цяжкой для чытачовага зразуменьня. Заўсёды, калі я сядаў, ён туліўся пад маім крэслам або ўскокваў да мяне на калені, назаляючы мне сваімі брыдкімі ласкамі. Талы, як я падымаўся, каб сысьці, ён лез пад мае ногі й блізу што валіў мяне або, усадзіўшы свае доўгія й вострыя кіпці ў маю вопратку, караскаўся гэтак мне на грудзі. У гэткіх разох, хаця й рупіла скінуць яго вытнем, я шчэ стрымліваўся, часткава дзеля памяці пра сваё колішняе злачынства, але галоўным чынам — ня буду ўтойваць — ад вялізнага страху перад жывёлінаю.

Гэта ня быў страх нейкага пэўнага няшчасьця, — але мне цяжка знайсьці свайму пачуцьцю іншае вызначэньне. Мне сорамна прызнацца — так, нават у гэтай каморы для злачынцаў — мне сорамна прызнацца, што застрашэньне й жах, якія кот выклікаў у мяне, падвысіліся праз адно малаўяўнае насланьнё. Жонка ці раз брала маю ўвагу на лапіну белага валосься, пра якую ўжо згадваў, адзіную значную рысу, што адрозьнівала дзіўную жывёліну ад тае, каторую я забіў. Чытач, пэўне, памятае, што гэтая, хаця й вялікая, лапіна была першапачатна расплывістая; але спакваля — ледзь прыкметна, ажно мой розум доўгі час намагаўся адкінуць гэткую недарэчнасьць, — метка нарэшце набыла супоўна выразныя абрысы. Я ўздрыгваю, гаворачы пра ейны выгляд — і перадусім дзеля гэтага я брыдзіўся й баяўся ды вызваліў бы сябе, калі б адважыўся, ад пачвары, — цяпер, толькі паслухайце, яна ўяўляла сабою відарыс нечага гідкага — нечага прывіднага, — Шыбеніцы! — о, каральнае й вусьцішнае прылады Жаху й Злачыну — Пакуты й Загубы!

І цяпер я напраўду стаўся найняшчасьнейшы з паспалітых людзей. Жорсткі зьвер, субрата якога я з пагардаю зьнішчыў, — гэты жорсткі зьвер прыносіў мне — мне, чалавеку, створанаму на вобраз і падабенства Ўсявышняга, — гэтулькі нясьцерпных бедаў! На жаль! Ні ўдзень і ні ўночы ня зьведаў я больш раскошы пярэдыху! Цэлы дзень кот ні на міг не пакідаў мяне, а поначы я штогадзіны прачынаўся ад невымоўна страшных сьненьняў, адчуваючы на сваім відзе гарачае дыханьне істоты ды сйны вялізарны цяжар, — увасобленую мару, якую я ня меў сілаў скінуць, — цяжар, што назаўжды наваліўся на маё сэрца!

Ціск гэткіх пакутаў пазбавіў мяне мізэрнае рэшты добрых пачуцьцяў. Адно злосныя думкі спадарожылі мне — найзмрачнейшыя й найзласьнейшыя з магчымых. Мая звычайная порсткасьць перарасла ў нянавісьць да ўсіх рэчаў і ўсяго чалавецтва; але больш за іншых цярпела ад раптоўных, частых і неўтаймоўных выбухаў лютасьці, у якую я безразважна ўпадаў, мая пакорлівая жонка.

Аднаго дня па нейкай дамовай патрэбе мы зь ёю пайшлі ў сутарэньне старога будынка, у які беднасьць змусіла нас пасяліцца. Кот сунуўся ўсьлед за мною па стромкіх сходах, я спатыкнуўся, ледзь не скруціў сабе галаву й дайшоў да шаленства. Падняўшы сякеру й забыўшыся ад разьюшанасьці на агідны страх, які дагэтуль стрымліваў маю руку, я мерыўся ўжо быў гэтак выцяць ката, што зараз жа адабраў бы ягонае жыцьцё. Але жонка супыніла мяне. Апанаваны праз перашкоду лютасьцяй, якая перасягае д'яблаву, я адхапіў руку й абрынуў сякеру на ейную галаву. Яна сканала на месцы бяз стогну.

Учыніўшы страшэннае забойства, я адразу ж паглыбіўся ў роздум аб схове цела. Я разумеў, што ня маю магчымасьці вынесьці яго з дому ні цягам дня, ні ў начны час бяз рызыкі быць заўважаным суседзямі. Мноства праектаў ішло ў галаву. Спачатку я быў намысьліў расчальцаваць труп на дробныя часткі, а тады зьнішчыць у агні. Затым сабраўся выкапаць для яго магілу ў сутарэньні. Пасьля я думаў, што лепей, пэўне, выкінуць яго ў студню на двары — або ўкласьці, быццам якісь тавар, у скрыню, згадзіць драгіля й паказаць, каб ён забраў яе з дому. Урэшце я абраў тое, што, паводле майго разуменьня, найбольш падыходзіла. Я намерыўся замураваць труп у сьцяне, як калісь сярэднявечныя манахі замуроўвалі свае ахвяры.

Сутарэньне добра пасавала для гэткае мэты. Ягоныя сьцены былі нетрывалыя,

# СУСЕДА

на, як, бы той казаў, у хаце без павука, і вылізаная Ніжняволжская ўзьбярэжная выглядала б мёртва й ненатуральна як, напрыклад, выглядаў бы завалены сьмецьцем Катэдральны пляц у Вільні.

Але ўжо пасьля першых крокаў бруд перастае адцягваць увагу ад больш цікавых рэчаў.

Якраз насупраць Рачнога вакзалу праз сквэр на ўвесь пляц расьсеўся пяціпавярховы гмах-пернік. Нскалі першы паверх займалі крама «Пасаж» і аднайменная рэстарацыя, у якой адзін зь ніжагародзкіх таўстасумаў наладзіў шыкоўны банкет з нагоды высылкі з родных мясьцінаў заступніка галоты Аляксея Пешкава. Ня выключана, што на тым баляваньні дэмакратыі прысутнічаў і Адам Багдановіч. Дом Горкага быў тады своеасаблівым інтэлігенцкім клюбам. Жылі яны на Канатнай па суседзтву й мелі калі не сяброўскія, то прыязныя адносіны напэўна. Дый сыну банкаўскага служкі было што паслухаць у такім асяродку.

Далей я іду не па «Маяковке», а па «Рождественской», якой яна была, пакуль «расейскую кішэню» не прастрэлілі. Будынкі былых банкаў, даходных дамоў і дамоў цярплівасьці яшчэ не згубілі сваёй пыхі й дадуць магчымасьць нашаму ўяўленьню запоўніць ходнікі выкшталцонымі гаспадарамі й далікатнымі дамамі, падшыванцамі з газэтамі й іншай публікай. Можна паслухаць цыганоў у рэстарацыі. Можна ўзьняцца на Дзятлавы горы, каб памілавацца волжскімі далячынямі. Можна ўскочыць у нядаўна пушчаны трамвай і махнуць на кірмаш, нават калі маеце адзін цалковы.

Але гульні канец. Я выйшаў на Скабу — няўдзячна занядбаны пляц, які адыграў заўважную ролю ў гісторыі не аднае Расеі. Вось гэты незразумелага стылю дом, які нагадвае раённы ДК, ёсьць зьнявечаная царква, з ганку якой прагучаў знакаміты кліч Казьмы Мініна ў 1614-м. Сёньня тут нейкая кантора й грамадзкая прыбіральня.

Я прайшоў толькі квартал, не чапаючы тых, што зьвязаныя зь імёнамі Пушкіна, Дзюма-малодшага, Караленкі, Шаўчэнкі, Сахарава...

*Працяг на старонцы 16.*



ня так даўна похапкам атынкаваныя, і ад вогкасьці тынк дасюль не прасох. Апрача таго, адна сьцяна мела выступ, утвораны нечым накшталт каміна або агменя, які быў закладзены цэглаю ды патынкаваны гэтак, каб не адрозьніваўся ад астатняе часткі сутарэньня. Я не сумляваўся, што змагу бязь цяжкасьцяў выняць цэглу ў гэтым месцы, уставіць туды труп і замураваць акурат па-старому, што аніводнае вока ня выявіць нічога падазронага.

I тут я не памыліўся. Пры помачы лома я лёгка вывернуў цэглу й, старанна прыхінуўшы труп да нутраное сьценкі, паставіў яго старчма; пасьля безь вялікіх намаганьняў залажыў выступ. Здабыўшы з усімі магчымымі перасьцярогамі вапну, пясок і пакульле, я падрыхтаваў тынк, які нічым не адрозьніваўся ад ранейшага, і вельмі рупліва замазаў ім новую муроўку. Скончыўшы, пераверыўся, што ўсё ў парадку. Нішто ня сьведчыла пра ўчыненае. Сьмецьце з падлогі было сабранае з найпільнейшай увагаю. Я пераможна азірнуўся й праказаў самому сабе:

— Тут, прынамсі, мая праца не пайшла ў глум.

Потым я ўзяўся за пошукі жывёліны, якая сталася прычынаю гэткага няшчасьця; нарэшце я цьвёрда вырашыў пазбавіць яе жыцьця. Калі б у той момант я натрапіў на ката, дык, пэўне, адразу б прыбраў яго са сьвету; але падступны зьвер, напужаны маім нядаўным лютым гневам, зьнік, пазьбягаючы сустрэчы. Немагчыма апісаць або нават уявіць глыбокае шчасьлівае пачуцьцё палёгкі, якое запанавала ў маіх грудзёх па зьнікненьні зьненавіднае йстоты. Кот не зьяўляўся поначы; вось жа, упершыню пасьля ягонага прыходу ў дом я моцна й спакойна спаў; так, спаў, хаця ляжаў на маёй душы цяжар забойства.

Мінуў другі дзень, тады трэці, а мучыцеля майго ўсё не было. Ізноў я дыхаў, як вольны чалавек. Зьвер у страху ўцёк з дому назаўжды! Я больш не пабачу яго! Якое вялізарнае шчасьце! Мой жахлівы грэх ні крышачкі не турбаваў мяне. Былі праведзеныя сякія-такія роспыты, але я лёгка апраўдаў сябе. Зрабілі нават ператрус — але, ведама ж, нічога ня выявілі. Я не сумляваўся ў сваім шчасьці.

На чацьверты дзень пасьля забойства да мяне нечакана прыйшлі паліцыянты й працягнулі пільныя пошукі ў доме. Тым ня менш, упэўнены ў непрыступнасьці свайго спрату, я ні на трошкі не зьбянтэжыўся. Паліцыянты наказалі мне быць пры іх. Ніводзін закутак не застаўся па-за іхняй увагаю. Нарэшце, трэці або чацьверты раз яны спусьціліся ў сутарэньне. Я й брывом не варухнуў. Маё сэрца білася спакойна, быццам я спаў сном невінавайцы. Я праходжваўся па ўсім сутарэньні. Склаўшы рукі на грудзёх, я валэндаўся ўзад і ўперад. Паліцыянты цалкам справілі свае абавязкі й намерыліся сыходзіць. Трыюмфаваньне ў маім сэрцы было замоцнае, каб я мог стрымацца. Мне карцела сказаць для трыюмфу хоць якое слова й канчальна пераканаць іх у сваёй невінаватасьці.

— Спадары, — урэшце вымавіў я, калі яны ўжо падымаліся па сходах, — вельмі рады, што разьвеяў вашыя запасочаньні. Дарэчы, спадары, гэта... гэта дужа добры будынак (у шалёным жаданьні нешта гаварыць, натуральна, я ледзьве разумеў, што ўвогуле вымаўляў), можна нават сказаць, выдатна збудаваны дом. На гэтых сьценах — ці сьпяшаецеся, спадары? — на гэтых сьценах няма ніводнае расколінкі. — I тут ад папросту безразважнае харобрасьці я пачаў моцна лупіць ляскаю, што трымаў у руцэ, якраз па тым месцы сьцяны, дзе стаяў замураваны труп мае жонкі.

Божа, абарані й вызвалі мяне зь іклаў Шатана! Не пасьпела шчэ патануць у цішы рэха ад гэтых вытняў, як мне адказаў голас з магілы! — крык, сьпярша прыглушаны й перарывісты, нібы дзяцінае хліпаньне, які разросься пасьля ў адзін доўгі, голасны ды працяглы лямант, надзвычай ненармальны й нечалавечы, — у скуголеньне — пранізьлівы віскат, адначасна жаху й трыюмфу, гэткі, што мог вынікнуць толькі ў пекле, дзе лямантуюць усе засуджаныя на вечныя мукі ды трыюмфуюць д'яблы.

Неразумна й гаварыць, якія думкі прыйшлі мне ў галаву. Абамлеўшы, я адхінуўся да супрацьлеглае сьценкі. Нейкае ймгненьне паліцыянты заставаліся нерухомыя, апанаваныя жахам і пакорлівым страхам. У наступны міг тузін моцных рук завіхаўся каля сьцяны. Яна адразу абрынулася. Труп, ужо падгнілы і ўквэцаны згусьцелай крывёю, стаяў проста перад вачыма сьведкаў. На ягонай галаве, разьзявіўшы чырвоную ляпу й зьзяючы адзіным вокам, сядзеў агідны зьвер, які падступна падвёў мяне да забойства, а цяпер здрадніцкім віскам выкрыў і засудзіў на сьмерць. Я замураваў істоту ў магільнай сьцяне.



*Здымак Алены Адамчык.*

# У ГЛЫБОКІМ ТЫЛЕ ПАТЭНЦЫЯЛЬНАГА СУСЕДА

*Працяг са старонкі 15.*

Але прыкметным на мапе сьвету гэтае места на стагодзьдзе наперад зрабіў знакаміты кірмаш, які штогод зь вясны да восені мяняў лад жыцьця горада і ўплываў на эканоміку тагачаснае Эўропы, дыктуючы ёй кошты на шмат які тавар.

Нават з пажоўклых фатакартак няцяжка сабе ўявіць грандыёзнасьць і размах таго спэктаклю. Ён ачэплены казачымі разьездамі (змаганьне са злачыннасьцю). Ён размаўляе на розных мовах двох кантынэнтаў. Моліцца ў храмах самых экзатычных вераў. Той казачна-балаганны горад пайшоў на злом разам з імпэрыяй, што яго спарадзіла. Наіўны надрыў цыганскіх песень зьмяніўся грукатам будаўніцтва новай імпэрыі. Учарашнія бағалюбы зруйнавалі храмы й пераназвалі горад у Горкі. (Жывы клясык нават дазволіў сабе жарт — штосьці наконт адраса й адрасата.) А замест колішніх гандлёвых радоў. паўсталі рады ўбогіх хрушчовак. Адзінае, што нагадвае пра былую славу, — два велічэзныя саборы (адзін зь якіх, дарэчы, збудаваў Манфэран) ды Галоўны кірмашовы дом, дзе сёньня намагаюцца ўваскрасіць былое.

Меў тут гандаль і мой прадзед Андрэй Бяляеў. Быў у яго бандарны рад, які вырабляў бочкі ўсіх формаў і памераў. Эксплёатаваў ён 400 рабочых, кожны зь якіх быў здольны ўтрымліваць немалую сям'ю й ніколі ня скардзіўся ані на лёс, ані на гаспадара. Меў ён таксама тры дамы, два зь якіх ўжо зьнесеныя, а трэці чакае свае чаргі.

Я так і не адчуў нічога каля гэтага двухпавярховіка. Для мяне ён такі ж далёкі, як і ніколі ня бачаны мною прадзед.

Сёньня Ніжні ня толькі вяртае сабе гістарычную назву, але ўсімі сіламі спрабуе вярнуць ёй сьцёрты горкімі часінамі зьмест. Прыхарошваюцца новымі фарбамі старыя камяніцы. Усё болей зьяўляецца шыльдаў рэстарацый і крамаў. Яшчэ год-два таму яны б нічога ў мяне ня выклікалі, апрача злобы й агіды. На тле галечы ўвесь гэты маскарад быў бы, мякка кажучы, недарэчны. Але як падганяюцца часы, меў я шчасьце ўпэўніцца, гледзячы на твары. Уявіце, іх усё болей чалавечых на ніжагародзкіх вуліцах.

Нецікава мне, колькі й чаго тут прыватызавана, якім чынам зьбіраюцца рабіць «аазіс капіталізму» ў межах вобласьці яе губэрнатар Нямцоў і паплечнік ягоны Яўлінскі. Але тое, што зь іх падачы ў ніжагародцаў зьявілася надзея (падмацаваная, дарэчы, ня толькі збыткоўнасьцю шыльдаў, але й тым, што пад імі), гэта ўжо цікавей.

Шпацыруючы па «Большой Покровской», я трапіў у невялічкі натоўп, у цэнтры якога дарылі ўсьмешкі й прывітаньні больш падобныя да канавінскага хулігана, чымся да губэрнатара, Барыс Нямцоў і мадам Тэчар. Асоба прыехала да Асобы, каб на свае вочы пабачыць «ніжагародзкі экспэрымэнт». Як я ні намагаўся, але ні на вуліцы, ні ў тэлеперадачы так і не заўважыў хоць цені расчараваньня на зусім незялезным твары зялезнае лэдзі. Адзначыў, праўда, няновую думку ў галаве — там, дзе кіруе пасрэднасьць, надзею чакаць марна.

Але Расея ёсьць Расея. Праз колькі хвілінаў пасьля тае прыемнае сустрэчы, я пацешыўся зь іншае сцэнкі. З мэтровага парапэту галавой уніз скончыў свой палёт слынны расейскі алкаш. Гурцік іншаземцаў, заклапочаных тым, што разам з палётам скончыцца й жыцьцё народнага артыста, з воклічам любові й захапленьня «Oh, Russian!» кінуўся ратаваць свайго ўлюбёнца. Горды ж расейскі чалавек (які гучыць горда), прагучэў нечым мярзотнамацерным у адрас публікі, чым і скончыў нумар. Будзе што ўспомніць замежным гасьцям у сваіх сумных ангельшчынах-нямеччынах.

Увогуле, п'янства — крыж гэтае дзяржавы, які яна несла вякі й, напэўна, яшчэ будзе несьці не адно стагодзьдзе. Хто ў гэтым павінен? Клімат? Бог? Д'ябал? Ня ведаю. Ведаю, што нідзе я не нап'юся да перадапошняй ступені, як толькі ў Расеі. Бяз сэнсу й якогась задавальненьня...

Мова. Вось ад чаго я атрымліваў сапраўдную асалоду. Намуляўшы слых «унівэрсальным» дзьвюхмоўем, я ў крамах, транспарце, на вуліцы літаральна лавіў кайф ад чыстых гукаў роднае мовы зь ня менш родным мне ніжагародзкім говарам. «А чай в Белорусии-то народ побогачеее». «Да уж куда тааам!»

Пасьпеўшы трохі «эўрапеізавацца» ў асяродку шчырых і сьвядомых, я баяўся тут размоваў на нацыянальныя тэмы. Хоць сваякі а ўсё-ткі расейцы. Сумуюць, мусіць, па Вялікай і Непадзельнай. Наколькі ж мне было сорамна за свае думкі пасьля. Мяне сустрэлі амаль як сапраўднага іншаземца. Жыва цікавіліся нашым «замежным» жыцьцём. З павагаю разглядалі разьліковыя білеты. Я ж без энтузіязму, але добра граў з благою мінаю на душы. Нешта казаў, што «симпатичный» заяц каштуе (менавіта каштуе) іхні чырвонец. І ў Польшчу мы шлындаем як да іх у Расею. І ўвогуле, чым далей, тым радасьней. Памоўчваў, праўда, пра талёны на прадукты і кошты на бэнзын. Наіўны мой кузэн зьбянтэжыў мяне пытаньнем: «А как у тебя с языком?» «Да, ничего, — аджартаваўся я, — вроде понимают», — сабе адзначыўшы: «Можа калі й разумець пачнуць».

Разьвітваючыся зь Ніжнім, я заўсёды прыходжу на Дзятлавы горы. Колькі разоў ні бываў тут, заўсёды катую сябе, сыходзячы ўніз. У вечаровай шарэчы на тым беразе Акі распасьцёрся мільённаагнёвы монстар, межы якога перасягнулі далягляд. А за Волгаю не было краю заліўным лугом. Ад сузіраньня гэтага бязьмежжа адчуваеш сябе волатам.

«Ня чуюць радзімай зямлі пад нагамі ў сябе маскалі», — сказаў адзін паэт зь Віцебску. Сказана злосна й трапна. А паспрабуй, пачуй яе, калі гэтай зямлі, здаецца, больш за нябёсы... Дадаць бы яшчэ так знаёмае: «И вся она наша, русская»... Ды ня тыя часы. На ўсходзе яна ўсё болей і болей татарская альбо проста чалябінская, на поўначы — валагодзкая, а тут перш за ўсё — ніжагародзкая. «Маскалі» ўжо пачынаюць адрозьніваць «тута» ад «тама». Можа, у гэтым і ёсьць абуджэньне іхняга слыху на радзімую зямлю.

**У Рэспубліцы Беларусі, краінах СНГ і Балтыі «Нашу Ніву» можна выпісаць у кожным аддзяленьні сувязі. Індэкс 63125**

## ШТО ПІШУЦЬ?

### Пра «Нашу Ніву»

**Сакрат Яновіч**

Паважаныя нашаніўцы, аж ня верыцца мне, што магу я так зьвяртацца да Вас, быццам наш шалёны дваццаты век толькі надумваецца яшчэ дурэць ды бандыціць... Рэінкарнацыя, ці што? Першая «Наша Ніва» прыходзіла ў наша мястэчка. Мой бацька, малалетні тады, нешта чуў пра яе...

Вашую-ж «Нашу Ніву» атрымліваю рэгулярна. І, як толькі зьявіцца яна ў наш дом, кідаю ўсё я і бяруся глядзець яе новы нумар. Часопісаў зразу ніколі не чытаю, а, прагледзеўшы ўрыўкамі тэксты, зазначаю сабе ў памяці, што варта, чаго не. У «Нашай Ніве» амаль няма выбару, бо амаль усенька ў ёй — вартае!

Няраз думаю, чаму так? [...] Магчыма, мае тут рацыю мой знакаміты сябар Лёнік Тарасэвіч, які растлумачыў мне, што «Наша Ніва»... пахне сьветам, шырокім сьветам, а не зацюканай правінцыяй, дзе больш плачуць, чымсь аналізуюць (каму-ж даспадобы сьлёзы?). Аднак, не адно гэта. Беларушчына ў Вас, хлопцы, нейкая кіслароднейшая, лягчэй дыхаецца ёю; натуральная, не сухая. Зь мейсца відаць, што яна Вам не якаясьці «нацыянальная», а прыродная, непрымушоная. Мы, тут у сябе, прымаем эфір Беларускага Тэлебачаньня. Трэба мець здаровыя нэрвы, каб спакойна глядзець гэтыя праграмы (калісь палепшаюць, думаю, праз гадоў дзесяць).

Кожны раз зіркаю на наклад «НН»: дзякаваць Богу, ня меншае. Разважаю, што рабіць, каб пайшло крыху экзэмпляраў і ў інтэлігенцкія рукі ў Беластоцкім Краі!? Пакуль нямаш у нас уласнае кнігарні. Калоцімся з Варшаваю за ўтварэньне Цэнтру Беларускай Культуры ў Беластоку. Будзе, бо Палякі хочуць мець Польскі Цэнтар у Гародні. Вы зразумелі?

Мяне, як эсэіста, ашаламіла «Балцкая тэма» Сяргея Санькі! І гэты-ж Уладзімер Арлоў [...] Ёсьць настрой у ягоных тэкстах, які памятаецца; запах і колеры. Яго Рыга (у якім гэта нумары? — няважна!). Цяпер-жа, Полацак і Вова Цымэрман. Гэта чытаў я ўчора за абедам, маці і жонцы. Рыхтык у яго, як у даўніх Крынках маіх, жыдоўскім мястэчку, у якім гарбарня была каля гарбарні (трэйцяе мейсца ў вырабе скураў у Расейскай імпэрыі 1913 году). Я жыдоў ня памятаю, іх вынішчылі ў 43-м нацысты. Наш агарод і дом паваенны знаходзяцца на пажарышчы іхных «ханаяк», а рэшткі тае культуры штораз выкопваю зь зямлі (то манэту з XVIII ст., то падсьвечнік, то саган). У дзесяцітысячных некалі Крынках жыве вось сяньня трохі за дзьве; сялянскія зрабіліся, ціхія і нудныя на папялішчах тутэйшай Палясьціны.

Цьвікевіча маю я ў сваёй хатняй бібліятэцы ды не зьвярнуў у ім увагі на тое, на што Вы зьвярнулі (— Алесь Кебік. Роля часопіса — акцэнтаваць, між іншага). Ажно сорам мне прызнацца ў тым, але мушу, калі не хачу страціць павагі да самога сябе. І загадка: Бруна Шульц мне падаўся цікавейшым па-беларуску, чымсь на мове арыгіналу! Таму, можа, што я не ўяўляю сабе мястэчка, якое размаўляла-б па-польску? І хоць Крынкі мае ўжо, лічы, апалячэлі, яны ў маіх вушах чуюцца не па-польску. Як-бы не намагаўся на тое сацыяль-камуністычны хам, які захацеў выбрацца ў паны...

Так хвалячы Вас, падумаў пра даваенную кніжку Сяргея Пясэцкага «Каханак Вялікай Мядзьведзіцы» (іначай: прыгоды кантрабандыста з Ракава). Ня ёсьць яна гэніяльная, таму яе масава чытаюць. А што, калі-б Вы перакладалі «Каханка...» і друкавалі ў «НН» для стабілізацыі накладу?! Затым і кніжку выпусьцілі, і зарабілі на часопіс, га?!!

Сяджу на паддашку, пазіраючы на агні крынкаўскай Пагулянкі ўнізе, некалі пралетарска-бандыцкай, і — не да тэмы — не магу надзівіцца наіўнасьці БССРаўскіх маскалёў, якім здаецца, што затопчуць Беларусь. Даюць прыклад англізацыі Ірляндыі. Я быў там: тыя англамоўныя «айрышы», каб маглі, нажамі рэзалі-б Ангельцаў і елі-б іх сырое мяса! Так іх далучылі да большай, чым-жа расейская, ангельскай культуры. Хочуць нашы маскалікі, каб расейскамоўная Белая Русь зьненавідзела Расею? У Польшчы ніхто зь Беларусаў не плюе так на Палякаў, як польскамоўныя менавіта Беларусы (— матэматыка Цьвікевіча шле вітаньні?).

Ну, даволі! Трымайцеся!

*Крынкі*



## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

**А.Х. зь Віцебску.** У «прафэсійных песень» свая спэцыфіка. Таму чакаем новых «аматарскіх вершаў». У шматпісаньні ёсьць небясьпека згубіць крытычны погляд на свае творы.

**М.Я. з Ольштыну.** На жаль, у Вашым артыкуле толькі пералічаныя вядомыя зьвесткі зь вядомых крыніцаў. Нас жа цікавяць новыя, іншыя факты на гэтую тэму і Ваша асабістае прачытаньне-вытлумачэньне гэтай паэзіі.

**Я.П. зь Менску.** На жаль, ужо год, як Рэдакцыя «НН» ня мае магчымасьці шукаць у архівах радаводы. Зьвярніцеся да згуртаваньня шляхты ў Менску.

**НАША НІВА** Беларуская газэта. Заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. **Рэдакцыйная Рада:** Уладзімер Арлоў, Сяргей Астраўцоў, Ігар Бабкоў, Адам Глёбус, Алег Дзярновіч (афіцыйны прадстаўнік Рэдакцыі ў Менску), Сяргей Дубавец (рэдактар), Лявон Луцкевіч, Алег Мінкін, Генадзь Сагановіч, Сяргей Харэўскі (мастацкі рэдактар), Алесь Чобат, Сяргей Шупа (адказны сакратар). **Заснавальнік і выдавец** Павал Жук. **Адрасы Рэдакцыі:** Вільня, вул. Жыгімонта 12/2, тэл. 224161, **для допісаў:** 2041 Вільня а/с 2082, або 220123 Менск а/с 71. Афсэтны друк. Фармат А3. Агульны наклад 20 тыс.



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку» (220041 Менск, праспэкт Скарыны, 79) Замова 1358

**ПАДПІСКА** У межах Рэспублікі Беларусі *Нашу Ніву* можна выпісаць у любым аддзяленьні сувязі. Індэкс: 63125. У пытаньнях падпіскі й рассылкі за межы Беларусі й СНГ зварачайцеся на адрас: Siarhiej Šupa, Vasaros 7, 2055 Vilnia, Lithuania.